13 лютага 2015 | № 6 (423)

# Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

**Каму патрэбны латвійскі Данбас?**

стар. 13

ISSN 2218-2144

5 **САЛОДКАЕ СЛОВА «БАЙКОТ»**

Няма ніводнага прыкладу, калі байкотам абвалілі дыктатуру. Затое...

6 **МАЗЫР — У СПІС ЮНЭСКА**




Горад Мазыр заслугоўвае быць унесеным у сусветны Спіс прыроднай і культурнай спадчыны ЮНЭСКА. З такой прапановай выступіла доктар урбаністыкі і архітэктуры Ірына Лаўроўская

11 **ТУРЭЦКАЯ ТРУБА ДЛЯ ПУЦІНА**

Альтэрнатыўны газаправод для дастаўкі расійскага паліва ў краіны Паўднёвай Еўропы патрэбны і Анкары, і Маскве. Адрозненне ў тым, што Турцыя зможа без яго пражыць

14 **ЮРЫ ШАЎЧУК: «МНЕ ЗАЎСЁДЫ ПАДАБАЛІСЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ НЕ ХАДЗІЛІ СТРОЕМ»**



Юрый Шаўчук у мінулыя гады часта бываў у беларускай сталіцы з канцэртамі, дый не толькі — гэта дзякуючы менавіта яму напоўніцу загучала ў другой палове 1990-х назва гурта «Тройца»...

# Начная варта

## Тое, што перамовы будуць доўгія і няпростыя, было бачна яшчэ да прылёту сусветных лідараў у Мінск



Сяргей ПУЛЬША

Да апошняга беларуская сталіца не ведала, ці адбудзецца сустрэча чатырох прэзідэнтаў. Пэўнасць была толькі з Пятром Парашэнкам, які адразу заявіў: ён гатовы ляцець хоць у Мінск, хоць у Астану, хоць да чорта на рогі, абы спыніць вайну. Прылёт жа астатніх лідараў быў пацверджаны толькі ў 15 гадзінаў 11 лютага.

У аэрапорце іх сустракалі. Меркель і Аланда — хлебам-соллю, Парашэнку — ганаровай вартай. Пуціна сустракаў віцэ-прэм’ер.

У чарговы раз цудоўным перамоўшчыкам паказаў сябе Пётр Парашэнка. Зразумела, што Пуцін выбіраў для перамоваў Мінск таму, што яму тут вельмі зручна і камфортна. Але Парашэнка прыляцеў загадзя, і зрабіў так, каб расійскі прэзідэнт пачуваўся не асабліва ўпэўнена. Украінскі кіраўнік паразмаўляў з беларускім калегам, і абодва з задавальненнем канстатавалі на тэлекамеры, што паміж сінявокай і жоўта-блакітнай ніколі не было такіх добрых адносінаў, як зараз. Паказаная ў навінах карцінка так і выпраменьвала задавальненне і аптымізм.

Не ведаю, ці глядзеў Пуцін гэтыя навіны, але пачуваўся ён — не вельмі. Падаецца, упершыню ў Мінску ён адчуў сябе не ў галоўнай ролі. Лукашэнка надаваў больш увагі лідарам Францыі і Германіі. Гэта зразумела: ён іх ніколі не бачыў і імкнуўся стварыць самае лепшае ўражанне. Пра Пуціна ён папросту забыўся.

Перад рассадкай за стол перамоваў сталася так, што Лукашэнка, размаўляючы з Ангелай Меркель, трымаўся за спінку крэсла, у якім павінен быў сядзець Пуцін. Уладзімір Уладзіміравіч паспрабаваў пасунуць крэсла, але Аляксандр Рыгоравіч Пуціна проста не заўважыў і крэсла не аддаў. Кіраўнік Расіі вымушаны быў чакаць, пакуль гэтая размова скончыцца, каб нарэшце пасядзець. Канешне, кур’ёз, але яскравы вобраз таго, хто ў Мінску быў на першым месцы.

Падавалася, што нервавацца няма чаго. Напярэдадні мінскіх перамоваў Меркель і Аланд наведалі Маскву і Кіеў, таму, пэўна, нейкія папярэднія дамоўленасці павінны былі існаваць. Журналісты спадзяваліся, што перамовы, якія пачаліся а шостай гадзіне вечара, скончацца хаця б да 12-й ночы. Але недзе а 10-й ім паведамілі — гэта як мінімум да чатырох гадзінаў ранку.

А палове чацвёртай ночы акулаў пяра збянтэжылі, што «гэта зацягнецца яшчэ гадзінаў на пяць-шэсць». Аказалася, і гэта быў аптымістычны прагноз. А дзясятай гадзіне ранку прэзідэнты пакінулі пакой перамоваў. Але гэта быў толькі перапынак: праз 15 хвілінаў дыскусіі працягнуліся. Пётр Парашэнка паспеў сказаць журналістам, што ўсё цяжка — Пуцін высунуў непрымальныя ўмовы.

Па-першае, Расія не збіраецца выводзіць сваіх вайскоўцаў і тэхніку з Украіны, сцвярджаючы, што яе салдаты там не ваююць. Па-другое, Украіна хоча аднавіць кантроль над мяжой, каб спыніць паток зброі і баевікоў з РФ, аднак Расія лічыць, што ключавыя кропкі мяжы павінны кантраляваць сепаратысты. Па-трэцяе, украінскі бок не супраць даць Данбасу шырокую аўтаномію, аднак Расія патрабуе нейкіх «гарантый», а таксама зняцця фінансавай блакады на Усходзе Украіны.



Фота www.tut.by

**Засталіся нявырашанымі галоўныя пытанні**

Чаму Украіна павінна выплачваць грошы тым, хто называе яе «фашысцкай хунтай» і страляе ва ўкраінскіх салдат — загадка.

Крыху аптымізму надало тое, што той гэты час памочнік Пуціна Уладзіслаў Суркоў павёз «папярэднія дамоўленасці» на подпіс «кіраўнікам ДНР і ЛНР», якія таксама сядзелі ў Мінску ўжо трэці дзень у межах кантактнай групы па Данбасе. Але амаль адразу ж ТАСС паведаміў, што Захарчанка і Платніцкі адмовіліся гэты пратакол падпісваць. Але выніковы пратакол і мемарандум усё ж падпісалі.

Праз 18 гадзінаў перамоваў да журналістаў выйшаў Пуцін і заявіў пра заканчэнне перамоваў. Між тым, іх вынік можна з упэўненасцю назваць папярэднім. Бакі дамовіліся пра спыненне агню з 0 гадзін 15 лютага, адвод цяжкага ўзбраення ад сённяшняй лініі сутыкнення — для ўкраінскіх войскаў, і ад лініі, зафіксаванай у дамове ад 19 верасня, — для сепаратыстаў.

Закавыка яшчэ ў тым, што сепаратысты сцвярджаюць пра «Дэбальцаўскі кацёл»: нібыта яны атачылі групоўку ў складзе 6–8 тысяч чалавек. «Яны зыходзяць з таго, што гэтая групоўка складзе зброю. Прадстаўнікі Украіны мяркуюць, што атачэння няма. У мяне ёсць сумневы — калі такое акружэнне ёсць, то тыя, хто ў акружэнні, будуць вырывацца. Мы дамовіліся з Парашэнкам, што ваенныя эксперты высветляць, што адбываецца на самай справе. Заклікаю да стрыманасці, да міру і спынення кровапраліцця», — сказаў Пуцін.

Як бачым, засталіся нявырашанымі галоўныя пытанні: кантроль Украіны над мяжой, які, паводле мемарандума, магчымы толькі пасля выбараў на Данбасе, і спыненне паставак расійскай зброі ва Украіну. А значыць, пра канец вайны казаць рана, і працяг перамоваў непазбежны.

**Працяг тэмы на стар. 4**

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СВІСЛАЧ. 38 мільёнаў штрафаў для ўдзельнікаў Дня памяці

**Праваабаронцы падсумавалі штрафы ўдзельнікам Дня памяці паўстанцаў 1863 года, што прайшоў 26 кастрычніка 2014 года ў Свіслачы і колішнім родавым маёнтку Каліноўскіх — Якушоўцы.**

Усяго адміністрацыйныя пратаколы за ўдзел у нібыта несанкцыянаваным мерапрыемстве былі складзены на 17 чалавек. 14 з іх былі аштрафаваныя пастановамі судоў розных гарадоў краіны — Свіслачы, Гродна, Кобрына, Ваўкавыску, Ліды і Шклова агулам на 255 базавых велічыняў, што разам склала 38 мільёнаў 250 тысяч беларускіх рублёў. Адміністрацыйныя справы яшчэ трох чалавек былі закрытыя ў звязку са сканчэннем тэрміну даўніны.

Найбольшы даход дзяржаве сваімі пастановамі прынесла суддзя Ленінскага раённага суда Гродна Алена Пятрова — агулам яна аштрафавала пецярых прысутных на Дні памяці на 115 базавых велічынь — 17 мільёнаў 250 тысяч.

Суды абласной інстанцыі прадказальна не задаволілі аніводную з 9-ці пададзеных касацыйных скаргаў. Віталь Гуляк з Ваўкавыску, а таксама Ежы Грыгенча і Уладзімір Хільмановіч ужо адправілі скаргі ў Камітэт па правах чалавека ААН. Яшчэ шэраг незаконна асуджаных рыхтуюць свае аналагічныя скаргі ў КПЧ.

### ГОМЕЛЬ. Жукоўскага зноў пераследуюць

**Грамадскаму актывісту патэлефанавалі з РАУС Чыгуначнага раёна і прапанавалі прыйсці ў аддзел для складання пратаколу за ілжывы данос.**

«7 лютага мне патэлефанаваў знаёмы і паведаміў, што каля грамадска-палітычнага цэнтру, што на вуліцы Палескай, стаяць удзельнікі мотапрабегу з Беларусі і Расіі, і што яны ломяцца ў двор, каб сарваць бел-чырвона-белы сцяг, які вісіць над будынкам. Патэлефанаваў знаёмы менавіта мне, бо я бліжэй за ўсіх жыву, і грамадска-палітычны цэнтр трэба было ратаваць ад тых байкераў з «Рускага свету». Я адразу выклікаў міліцыю і пабег туды. У той час у будынку грамадска-палітычнага цэнтру нікога не было, бо быў выходны. Калі я прыйшоў на месца здарэння, то байкераў там ужо не было, толькі прыехала міліцыя. У выніку мяне хочуць зрабіць вінаватым», — тлумачыць Кастусь.

Удзельнікі клубаў «Начныя ваўкі» і «Рускія матацыклісты» ладзілі прабег «Белая Русь» па маршруце Масква — Смаленск — Наваполацк — Мінск — Бабруйск — Гомель — Бранск. Мотапрабег праходзіў з 4 па 8 лютага. «Шлях паломнікаў пройдзе па святых гістарычных мясцінах руска-беларускай зямлі. Мерапрыемства здзяйсняецца ў славу прападобных святых воінаў-мніхаў, якія ўчынілі подзвіг у імя зямлі рускай, і ставіць сваёй мэтай захаванне і развіццё гістарычнай і культурнай спадчыны Русі, яе духоўных традыцый і каштоўнасцяў», — паведамлялі арганізатары. Мерапрыемства праходзіла пры падтрымцы Дэпартамента турызму Міністэрства культуры РФ, Расійскага ваенна-гістарычнага таварыства і Нацыянальнага дабрачыннага фонду.

### БАБРУЙСК. Дзеля гіпермаркета знішчаюць парк

**Нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў, пачалося знішчэнне зялёнай зоны на скрыжаванні вуліц 50 год ВЛКСМ і Лынькова ў Бабруйску.**

Чыноўнікі аддалі гэтую тэрыторыю кампаніі «Inproma Group» пад будоўлю гіпермаркета «Ома».

Зялёная зона высаджвалася на гэтым месцы спецыяльна, каб абараніць жыхароў ад выкідаў прадпрыемстваў, якія размясціліся праз дарогу — завода гуматэхнічных вырабаў, гарбарнага камбіната, завода буйнапанэльнага домабудавання, шыннага камбіната. Але зараз, па меркаванні мясцовых чыноўнікаў, санітарная зона стала неабавязковай. Вырубка ідзе хутка. Агулам тут будзе знішчана каля 650 дрэваў.

У кастрычніку мінулага года мясцовыя ўлады правялі «грамадскія слуханні». Пераважная колькасць апытаных бабруйчан, 563 чалавекі, выказаліся супраць вырубкі санітарнай зоны і будаўніцтва гіпермаркета. Але іх меркаванне, у выніку, ніяк не паўплывала на рашэнне чыноўнікаў. Было агучана, што будоўля распачынаецца ў хуткім часе, і мусіць скончыцца ў 2016 годзе.

Жыхары прылеглых дамоў працягвалі дасылаць звароты ў гарвыканкам, даводзілі сваю пазіцыю на сустрэчах з забудоўшчыкам і прадстаўнікамі ўлады, спадзяваліся на цуд. Але паспешная вырубка санітарнай зоны стала красамоўным адказам чыноўнікаў на просьбы бабруйчан.

**Паводле spring96.org**

# Акцыя салідарнасці з кнігарняй «ЛогвінаЎ»

Арцём ЛЯВА

**Старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і ягоныя намеснікі Юрась Губарэвіч і Алесь Лагвінец наведалі кнігарню «ЛогвінаЎ» і набылі там беларускія дзіцячыя кнігі.**



На набыццё кніг, аўдыёзапісаў казак і відэафільмаў было выдаткавана чатыры мільёны дзвесце тысяч рублёў. Кнігі і дыскі былі перададзеныя ў беларускамоўныя групы двух дзіцячых садкоў Цэнтральнага раёна Мінска.

«Самая галоўная зброя супраць пераследу незалежнага грамадства — гэта салідарнасць. Чым больш будзе салідарнасці, тым менш будзе рэпрэсій. І думаю, што ўлада вельмі баіцца свабоднага слова, свабоднага мыслення і ўвогуле незалежных ініцыятываў. Таму зараз вялікія праблемы ў прыватнага бізнесу. Улада хоча ўсё кантраляваць. Але якраз вольнае слова кантраляваць немагчыма. Беларусы мусяць падтрымліваць адзін аднаго. Калі будзе ўзаемная падтрымка, аўтарытарны рэжым не здолее падпарадкаваць вольныя грамадскія ініцыятывы», — адзначыў Аляксандр Мілінкевіч.

«Салідарнасць — адзінае, што мы можам супрацьпаставіць рэпрэсіўным дзеянням Лукашэнкі. Дапамагаючы выжыць кнігарні, праз набыццё і распаўсюд беларускай літаратуры мы інвестуем ва ўласную будучыню», — дадаў Юрась Губарэвіч.

Нагадаем, грамадства актыўна падключылася да збору сродкаў для выплаты велізарнага штрафу, які прысудзілі выдавецтву «ЛогвінаЎ». Ужо сабрана болей за 10 тысяч долараў.

Калегія па эканамічных справах Вярхоўнага суда разгледзела сёння скаргу выдаўца Ігара Логвінава і пакінула ў сіле рашэнне пра спагнанне з экс-уладальніка кнігарні «ЛогвінаЎ» штрафу ў памеры 5 мільёнаў 400 тысяч рублёў, а таксама канфіскацыі даходаў яго прадпрыемства за 2014 год у памеры 961 мільёна рублёў.

# Ніна Багінская абскардзіла штраф

**Пры разглядзе скаргі Ніны Багінскай у Мінгарсудзе вынесеная пастанова аб накіраванні справы актывісткі на новы разгляд у той жа суд і аб адмене ранейшай судовай пастановы.**

Нагадаем, 23 студзеня актывістку Ніну Багінскую суд Цэнтральнага раёна пакараў штрафам у памеры 20 базавых велічынь па частцы 3 артыкула 23.34 КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, здзейснены на працягу года паўторна).

«Знаходзячыся 22 студзеня ў грамадскім месцы... прыняла ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу (пікетаванні), падчас якога знаходзілася ў групе грамадзян, дзе выкрыквала словы «Украіне героям Слава», «Жыве Беларусь» [тэкст падаецца з арыгіналу. — заўвага аўтара]. На неаднаразовыя заўвагі спыніць супрацьпраўныя дзеянні не рэагавала, чым парушыла парадак правядзення масавых мерапрыемстваў паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністратыўнага спагнання за такое ж парушэнне», — адзначаецца ў пастанове суда Цэнтральнага раёна.

Пры разглядзе скаргі ў Мінскім гарадскім судзе 3 лютага суддзя В. Камісараў прыйшоў да нечаканай высновы, што «зыходзячы са зместу, выкладзенага ў апісальна-матывіровачнай частцы вынесенай раённым судом пастановы ў адносінах да Багінскай Н.Г. вынікае, што не было дакладна ўстаноўлена тое, у якім мерапрыемстве Багінская прымала ўдзел 22 студзеня — у несанкцыянаваным мітынгу альбо несанкцыянаваным пікетаванні».

Насамрэч, пакаранне за ўдзел у пікеце альбо мітынгу, які не быў санкцыянаваны уладамі, нічым не адрозніваецца ў тым, што тычыцца паўторнасці здзяйснення правапарушэння. А прыведзеная ў пастанове Мінгарсуда цьмяная падстава для адмены прысуду тлумачыцца нескладана: падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі журналістка Таццяна Мельнічук з BBC спыталася ў прэзідэнта пра затрыманні некалькіх чалавек, якія выходзілі да французскай амбасады і помніка Тарасу Шаўчэнку.

Лукашэнка сказаў, што цалкам згодны з меркаваннем журналісткі. Ён заявіў, што міліцыі не варта было чапаць гэтых людзей, і даручыў разабрацца кіраўніку МУС.

Неўзабаве стала вядома, што суд над старшынёй Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолем Лябедзькам і іншымі ўдзельнікамі акцыі салідарнасці з журналістамі «Charlie Hebdo», прызначаны на 4 лютага, адменены.

**spring96.org**

# «Абаронім дзяцей ад алкаголю»

**Каардынатар кампаніі «Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю» аргкамітэту БХД Вольга Кавалькова пракаментавала заяву Мікалая Іванчанкі пра тое, што Палата прадстаўнікоў будзе ініцыяваць забарону на продаж алкаголю асобам да 21 года.**

«Прадстаўнікі ўлады, нарэшце, пачынаюць казаць і тым самым прызнаваць наяўнасць стратаў, якія наносіць бюджэту ўжыванне алкаголю і пра тое, што трэба прымаць меры для вырашэння гэтай праблемы. Намінальна меры па вырашэнні гэтай праблемы змешчаны ў дзяржаўнай праграме нацыянальных дзеянняў па папярэджанні і пераадоленні п'янства і алкагалізму на 2011–2015 гады, але чамусьці яны не выконваліся ў 2011–2014 гадах», — адзначыла яна.

На яе думку, прынясце ў першым чытанні новай рэдакцыі Закону «Аб рэкламе», якая забараняе рэкламу брэндаў, што вырабляць алкаголь, і такіх заяваў дэпутатаў, з'яўляецца добрым прамежкавым вынікам кампаніі «Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю», якая пачалася ў пачатку 2014 года.

«У межах кампаніі мы сабралі і даслалі больш за 20 000 подпісаў грамадзян у падтрымку прапаноў да ўладаў, былі праведзеныя дзве навукова-практычныя канферэнцыі па гэтай тэматыцы, адбываюцца сустрэчы актывістаў з чыноўнікамі і распаўсюджваецца інфармацыя пра кампанію сярод насельніцтва. Мы карэктуем і дапаўняем нашы прапановы цягам кампаніі, дасылаем у Мінгандлю фотаздымкі з крамаў, якія на нашае меркаванне парушаюць правілы гандлю ці папулярызуюць ужыванне алкаголю», — паведаміла Вольга Кавалькова.

Яна таксама дадала, што кампанія «Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю» будзе і надалей дамагацца зменаў беларускага заканадаўства, якое рэгулюе выбар і продаж алкаголю, каб абараніць нашу краіну і нашых дзяцей ад уплыву алкаголю.

**Прэсавая служба БХД**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вельмі грошы патрэбныя…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Беларуская сацыяльная мадэль — дзіўная рэч. «Дзяржава для народа» робіць усё дзеля народа. І кошты заціскае, і нормы ўсталёўвае. Але ж гэтыя нормы і кошты, падлюкі, ніяк не хочуць служыць свайму народу!**



Вось, напрыклад, у сярэдзіне снежня мінулага года Аляксандр Рыгоравіч «замарозіў цэны», каб «людзі маглі адсвяткаваць Каляды». Потым Мінэканомікі патлумачыла, што замарозка бестэрміновая. Вынік гэтай замарозкі за першы месяц Новага года зараз падлічыў родны Белстат.

Аказваецца, у выніку фінансавага марозу інфляцыя за студзень склала 2,4%. Харчовыя тавары падаражэлі на 1,8%, нехарчовыя — на 2,4%. Цэны і тарыфы на платныя паслугі выраслі на 3,9%.

З харчовых тавараў у студзені больш за ўсё падаражэлі гароднiна — на 22%, садавіна — 16,4%, бульба — 6%, кансервы рыбныя — 4,8%. Інфляцыю па групе нехарчовых тавараў забяспечылі бензін — рост 4,6%, ровары і матацыклы — 9,3%, медыкаменты — 2,2%. У сферы паслуг у студзені найбольшы рост коштаў і тарыфаў паказалі паслугі ЖКГ — 5,1%, паветраны і міжнародны чыгуначны пасажырскі транспарт — адпаведна 16% і 17,5%.

Варта зазначыць, што, напрыклад, у мінулым 2014 годзе ніякіх забаронаў на навагодні рост цэнаў не было. То бок, яны маглі ўзрастаць, як хочуць. І за студзень 2014-га інфляцыя склала толькі 1,6%. Чаму замарожаныя цэны не слухаюцца Аляксандра Рыгоравіча? Можа, яны, наадварот, адмарожаныя?

Ва ўмовах «замарозкі» працягваюць расці тарыфы і плацяжы. Напрыклад, Мінскі аблвыканкам павысіў стаўкі адзінага падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб на тэрыторыі Мінскай вобласці ў сярэднім на 20%. Адкуль жа прадпрымальнікі возьмуць грошы? Цэны павышаць забаронена, а падаткі павышаюцца і павышаюцца. Скажам шчыра — у такіх умовах працаваць нельга.

І, канешне ж, ІПшнікі не працуюць. Варта зайсці, напрыклад, у мінскія гандлёвыя цэнтры, як гэта зрабіў карэспандэнт Радыё «Свабода». «Традыцыйна ажыўлены і папулярны ў пакупнікоў «Паркінг» сёння здзіўляе сваёй пустатой. Значная частка павільёнаў зачынена, на многіх вісяць аб'явы аб тэрміновым продажы або здачу ў арэнду», — напісала «Свабода». З ростам падаткаў будуць закрывацца і тыя, хто яшчэ застаўся на плаву. А знікненне прадпрымальнікаў, перш за ўсё, ударыць па асартыменту тавараў у краіне. Значыць, прывітанне, дэфіцыт?

Але ж уладзе патрэбныя грошы, і шмат грошай. І новыя ініцыятывы ўладаў па параўнальна сумленнаму ад'ёму грошай у насельніцтва ўжо даходзяць да мяжы рабаўніцтва.

Вядома, што падчас нашай 40-працэнтнай дэвальвацыі і нястачы замежных грошай у краіне зноў з'явіліся валютчыкі. Яны так намазолілі вочы кіраўніцтву, што Аляксандр Рыгоравіч падпісаў новы ўказ па барацьбе з імі. Вельмі цікавы дакумент.

Справа не ў тым, што ўказам павялічваюцца штрафы за «незаконныя валютныя аперацыі» ад 100 да 300 базавых велічынь, у залежнасці ад таго, хто, як і калі гэтыя аперацыі здзейсніў. Гэтым дакументам прадугледжваецца (увага!) магчымасць канфіскацыі не толькі той замежнай валюты, якая з'яўляецца прадметам адміністрацыйнага правапарушэння, але і ўсёй замежнай валюты і іншых грашовых сродкаў, якія знаходзяцца ў вінаватай асобы пры сабе на момант здзяйснення правапарушэння.

То бок, тое, што мы бачым у расійскіх бандыцкіх серыялах, калі ў затрыманага пярэваратні ў пагонах нахабна ачышчаюць гаманец, у Беларусі становіцца цалкам законным! Пакуль толькі ў дачыненні да валютчыкаў, але, як сведчыць практыка, ад адной катэгорыі грамадзянаў да ўсіх грамадзянаў — адзін крок.

Больш за тое, устанаўліваецца і адміністрацыйная адказнасць за замах на скупку, продаж, абмен замежнай валюты, якія ажыццяўляюцца без спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) або дзяржаўнай рэгістрацыі. А што такое «замах»? Вось, скажам, прыехаў сюды расіянін, заблытаўся ў нашых нулях на купюрах і пытаецца: «А колькі гэта будзе ў доларах альбо расійскіх рублях»? Вось табе і гатовы замах з наступнай ачысткай гаманца.

Нават спробы Мінэканомікі неяк спрасціць жыццё людзям ні да чаго не прыводзяць. Напрыклад, гэтае ведамства на тыдні нас узрадавала тым, што папоўніла пералік рэгулюемых цэн тарыфам на міжсеткавы трафік аператараў мабільнай сувязі. Гранічны максімальны тарыф на пропуск трафіку мабільных аператараў праз сеткі ўпаўнаважаных аператараў складае 82 рублі за хвіліну.

Спачатку ўсе ўзрадаваліся: «Ваў! Званкі ў іншыя сеткі патаннеюць да 82 рублёў!» Але рана радаваліся дзяўчынкі і хлопчыкі. Усё зусім не так. Проста таму, што аператарам мабільнай сувязі (як і інтэрнэт-правайдэрам) забаронена наўпрост абменьвацца трафікам. Званок з вашага мабільніка на мабільнік іншага аператара павінен абавязкова прайсці праз абсталяванне так званага «ўпаўнаважанага аператара сувязі». Раней такім аператарам выступаў Белтэлекам. Цяпер яго манаполія ўмоўна размытая за кошт уключэння ў канкурэнтную барацьбу РУП «Нацыянальны цэнтр абмену трафікам» і СТАА «Беларускія воблачныя тэхналогіі».

Такім чынам, 82 рублі — гэта кошт пераадрасацыі вашага званка да «ўпаўнаважанага аператара», а не аплата за званок у іншую сетку. Новы тарыф прывядзе, хутчэй, да павышэння кошту званка з адной мабільнай сеткі ў іншую, паколькі ў манапаліста Белтэлекама гэты тарыф усё ж такі быў ніжэйшы за 82 рубля за хвіліну.

Застаецца толькі патлумачыць, куды пойдуць усе гэтыя грошы, якія дзяржава імкнецца спагнаць з насельніцтва. Тлумачу: яны будуць зноў закапаныя і распіленыя. Урад краіны пераглядзеў план крэдытавання эканомікі на 2015 год і вырашыў пашырыць задачу Банку развіцця па гэтым пытанні. У 2015 годзе Банк развіцця выльe ў фінансавую сістэму 10,2 трыльёна рублёў праз фінансаванне дзяржпраграм. Гэта на 1,95 трыльёна рублёў больш, чым было прадугледжана папярэднім планам. Колькасць праектаў, якія будзе фінансаваць Банк развіцця, павялічана з 35 да 67.

А што вы думалі? У нас жа наперадзе галоўная дзяржпраграма — пасяўная! А бензін, сабака, адмаўляецца чуць пра замарозку цэнаў! Нехта ж павінен плаціць за харчовую бяспеку?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Юрый Рубцоў

**Супраць палітвязня рыхтуюць новую крымінальную справу.**



Днямі Юрыя Рубцова выклікалі на допыт ва ўпраўленне Следчага камітэта ў Пружанах і заявілі аб тым, што ён нібыта абразіў начальніка атрада.

«Калі абразай уважаецца тое, што чалавеку сказалі ў вочы, што ён нягоднік, то я гэта сказаў. Я прасіў азнаёміцца з дакументам, які прадугледжвае не толькі мае абавязкі, але і правы. Начальнік атрада абяцаў, але дагэтуль не выдаў мне копій патрэбных дакументаў. Я яму сказаў, што калі ты нягоднік, то я з табой наогул размаўляць не хачу. Вось за тое, што я яму сказаў «нягоднік», пачынаюць крымінальную справу», — распавёў Юрый Рубцоў.

Са слоў палітвязня, ніякіх дакументаў для азнаямлення ў Следчым камітэце яму не прадставілі.

У кастрычніку 2014 суддзя Цэнтральнага суда Мінска Наталля Вайцяховіч прысудзіла Юрыю Рубцову 1,5 гады «хіміі» за абразу суддзі Кірыла Палулеха. Той судзіў актывіста вясной — пасля акцыі «Чарнобыльскі шлях–2014». Рубцоў быў на шэсці ў майцы з надпісам «Лукашэнка, сыходзь». Міліцыянты затрымалі актывіста і прывезлі ў суд у адных штанах. Калі Кірыл Палулех пачаў працэс над Юрыем Рубцовым у такім выглядзе, той, са слоў суддзі, назваў яго «падонкам».

Праваабаронцы заявілі, што абмежаванне волі Юрыя Рубцова дае падставы кваліфікаваць яго як палітычнага зняволенага.

## Святлана Алексіевіч



**Сярод грамадскіх дзеячаў з Расіі, Украіны, Беларусі і іншых краін свету, якія звярнуліся да Пуціна з просьбай вызваліць з-пад варты ўкраінскую лётчыцу Надзею Саўчанку, і Святлана Алексіевіч.**

«Мне вельмі падабаецца гэтая жанчына. Гэта чалавек перакананняў, чалавек з поглядам, гэта вайсковец, які рабіў сваю справу — абараняў сваю радзіму. Я лічу, што ўкраінская армія абараняе сваю радзіму. Яе падманам выкралі, павезлі, не маюць супраць яе ніякіх доказаў, у яе ёсць алібі. І калі я падпісвала ліст, я ўспомніла гэты знакаміты здымак, дзе напаўголы Пуцін на кані, і я падумала: як гэта адбываецца, што мужчыны ваююць з жанчынамі? Такімі моцнымі і цікавымі жанчынамі, тым больш, што ўжо зразумела: трэба зусім няшмат, каб яе не стала. Сапраўдны салдат паважае сілу іншага салдата — гэта рабілі нават немцы ў час вайны! А чаму расійская ўлада на гэта не здольная?» — распавяла Святлана Алексіевіч.

Пісьменніцу не бянтэжыць жанр звароту да тырана. «А каго прасіць, калі ў гэтай краіне ўсё належыць тырану? Я разлічваю, што адыграе ролю хоць бы мужчынскі сорам — я ўжо не буду казаць пра нейкія перакананні. Так, яны — салдаты розных пазіцый, але мужчынскі сорам — ёсць ці не?» — запытваецца знакамітая пісьменніца.

## Мікалай Іванчанка



**Дэпутат палаты прадстаўнікоў на пасяджэнні Мінаблвыканкама паведаміў, што будзе ініцыявана ўвядзенне забароны на продаж алкаголю асобам, маладзейшым за 21 год.**

На думку дэпутата, прыбытак ад вытворчасці алкаголю несувымерны з той шкодай, які ён наносіць краіне. «Дзейснай праграмы па супрацьдзеянні ўжыванню алкаголю сёння не бачна. Прапаную разам з нарколагамі і іншымі спецыялістамі Мінскай вобласці ўнесці ва ўрад сур'ёзныя прапановы, каб прыняць праграму, дзе былі б замацаваныя забарона на продаж алкаголю асобам, маладзейшым за 21 год, скарачэнне кропак продажу алкаголю і шэраг іншых прапаноў», — адзначыў Мікалай Іванчанка.

Прапанаваныя меры маглі б даць сур'ёзныя вынікі ў плане скарачэння спажывання алкаголю, мяркуе Іванчанка. «Дэпутаты будуць падымаць гэтыя пытанні, але хацелася б, каб да гэтага падключыліся ўсе зацікаўленыя», — дадаў дэпутат.

А як жа напаўняльнасць бюджэту?

# Выйграе Мінск

Сяргей ПУЛЬША

**Сустрэча ў Мінску «нармандскага фармату» наўрад ці радыкальна паўплывае на сітуацыю ў Данбасе. А вось Мінск апынаецца ў сур'ёзным палітычным выйгрышы.**




## З чым яны ехалі ў Мінск

Канцлер Германіі Ангела Меркель і прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд перад мінскім самітам наведалі як Пятра Парашэнку, так і Уладзіміра Пуціна. З гэтых візітаў стала вядома, што прапанавалі Меркель і Аланд для вырашэння крызісу ва Украіне палітычнымі метадамі. У асноўным гэта былі, скажам так, мадэрнізаваныя мінскія пагадненні.

Па-першае, гэта спыненне агню. Па-другое — новая дэмілітарызаваная зона. Калі раней мінскія пагадненні прадугледжвалі адвод цяжкага ўзбраення на адлегласць 30 кіламетраў, то зараз прапануецца ўжо 70. Па-трэцяе — далейшае вырашэнне пытання Данбасу: прадстаўленне яму шырокай аўтаноміі ў складзе Украіны.

Пра ўсё гэта ўжо размаўлялі экс-прэзідэнт Украіны Леанід Кучма і прадстаўнікі так званых «ЛНР» і «ДНР». Аднак амаль нічога (за выключэннем галоўнага — абмену палоннымі), не выконвалася.

Самым галоўным пытаннем «мінскай нармандскай сустрэчы», безумоўна, была дэмілітарызаваная зона і будучы статус Данбасу. Данецкія і луганскія сепаратысты за час нібыта перамір'я адхапілі ад Украіны каля 500 квадратных кіламетраў тэрыторыі, і, канешне ж, хочуць уключыць гэтую тэрыторыю ў сваю «шырокую аўтаномію». Пытанне і ў тым, што маецца на ўвазе пад гэтай шырокай аўтаноміяй для Луганска і Данецка. І па гэтым пытанні яшчэ будуць спрэчкі і дамовы.

## Пры чым тут Пуцін?

Раней для вырашэння гэтых пытанняў Расія настойвала на перамоўным працэсе ў Мінску паміж прадстаўнікамі сепаратысцкіх тэрыторый і ўладамі Украіны. Маўляў, мы тут не пры чым, гэта апалчэнцы ваююць, а мы так, назіраем, а таму не мусім і перамаўляцца з кім-небудзь пра што-нішто. Зараз Пуцін становіцца адным бокам у перамовах. Чым, дэ-факта, прызнае расійскі ўдзел у Данбаскай заварушцы. У прынцыпе, яму ад гэтага не халодна і не горача, бо гэты ўдзел ужо шматкроць пацверджаны рознымі доказамі.

Канешне, без падтрымкі Масквы гэтая вайна не была б магчымай. Праз некантралюемую Кіевам мяжу з Расіяй плывуць зброя і тэхніка, якія, па меркаванні Пуціна, апалчэнцы «набываюць у ваенторгу». У тым ліку залпавыя агнямёты «Бураціна», зенітныя комплексы «Панцыр–С1» коштам у 14 мільёнаў долараў, знішчаныя нядаўна ўкраінскімі войскамі (акрамя Расіі, такой тэхнікі на ўзбраенні ні ў кага няма) альбо зенітны комплекс «Бук», які па памылцы збіў малазійскі «Боінг».

Дзякуючы Маскве, гэты канфлікт пачаўся (узгадайце, усё пачалося з «Рускага міра») і працягваецца. Але ці здольны Пуцін спыніць гэтую вайну? Наўрад ці.

Канешне, варта Расіі перастаць гнаць у Данбас «гуманітарныя канвоі» са зброяй, то праз тыдзень-два ў сепаратыстаў папросту скончацца боепрыпасы. Так лічыць, напрыклад, судырэктар праграм знешняй палітыкі і міжнароднай бяспекі «Цэнтра Разумкова» Аляксей Мельнік. Па ягоным меркаванні, са спыненнем паставак зброі і боепрыпасаў можна будзе зафіксаваць сітуацыю каля б на ўзроўні замарожанага канфлікту. Але і ён кажа пра тое, што кіраўнікі баявых падраздзяленняў падкантрольныя Маскве «не цалкам». З пэўнай доляй упэўненасці можна казаць, што прынамсі частка «палявых камандзіраў» успрымуць «нармандска-мінскія дамоўленасці» як «здраду Радзіме» з боку Пуціна, заявяць, што ён «зліў Наваросію» і працягнуць калі не паўнавартасныя ваенныя аперацыі, то дакладна партызанскую вайну.

## Здольнасць дамаўляцца

Канешне, гэты «нармандскі мінскі фармат» быў чарговай спробай дацісннуць Уладзіміра Пуціна ў пытанні аб спыненні падтрымкі сепаратыстаў. Без такой падтрымкі, мяркуе Захад, вайна пакрыху сыдзе ў нішто.

У папярэдніх сустрэчах Меркель высунула ўльтыматум Пуціну: альбо новыя пагадненні, альбо ЗША распачне пастаўкі Украіне ўжо летальнай зброі. Дый новыя санкцыі ў адносінах да Расіі на падыходзе. Разам з нізкімі коштамі на нафту яны ўтвараюць узрыўны кактэйль для расійскай эканомікі. Па меркаванні Меркель, гэтага дастаткова, каб Пуцін, прынамсі, задумаўся.

Аднак нават калі мінская сустрэча лідараў дзяржаваў дасць нейкі плён, і будуць дасягнутыя некаторыя пагадненні, то няма ніякіх гарантыяў, што гэтыя пагадненні будуць выконвацца. Пуцін з высокай званіцы напляваў на міжнароднае права ў пытанні Крыма. «Мінскія дамоўленасці» аб спыненні агню, падаецца, не выконваліся ніводнага дня. А калі і выконваліся, то выключна ўкраінскім бокам, а сепаратысты ў гэты ж час перагрупоўвалі сілы, што і стала вынікам іхняга наступу, які дазволіў ім пашырыць тэрыторыю ўплыву на 500 квадратных кіламетраў, як казалася раней.

Зараз «ДНР» абвясціла мабілізацыю. Невядома, канешне, колькі чалавек яны мабілізуюць, і колькі з гэтых людзей сапраўды будуць ваяваць, а не перабягуць на ўкраінскі бок пры першым жа зручным выпадку. Але сам факт паказальны: пакуль высокія бакі спрабуюць пра нешта дамовіцца, палявым камандзірам на Данбасе іхнія дамоўленасці — да аднаго месца. Перапынак у баявых дзеяннях у чаканні дамоваў яны скарыстаюць для нарошчвання сваіх сілаў.

А, як кажа ваенны эксперт Андрэй Паротнікаў, адмабілізаванае войска ўтрымліваць без дзеянняў — вельмі дорага і бязглузда. Адмабілізаванае войска проста павінна ваяваць. Гэта яшчэ адзін ускосны адказ сепаратыстаў на ўсе дамоўленасці, хай яны тройчы мінскія альбо нармандскія.

## Чаму Мінск?

Раней перамовы ў «нармандскім фармаце» планавалася правесці ў сярэдзіне студзеня ў Астане. Але потым сустрэчы перанеслі ў Мінск, узяўшы яшчэ амаль месяц на падрыхтоўку. Чым не спадабалася Астана?

Гэта псіхалагічны прыём Пуціна. З аднаго боку, ён хацеў на перамовах трымацца ўпэўнена. Гэта магчыма ў братэрскім Мінску. З іншага боку, ён хацеў выклікаць няўпэўненасць і дыскамфорт у ягоных апанентаў: Меркель і Аланда. Як жа, столькі гадоў казалі пра «апошнюю дыктатуру ў Еўропе», пра санкцыі, фактычна ізалявалі Аляксандра Лукашэнку, пазбавіўшы яго вышэйшых міжнародных кантактаў з кіраўнікамі дзяржаваў… А зараз давялося ехаць у Мінск і ручкацца з тым самым «апошнім дыктатарам».

У Астане такога не зробіш. З Казахстанам у Еўропы нармальныя адносіны, а вось з Расіяй, нягледзячы на ўваходжанне ў ЕАЭС, усё больш напругаў. Менавіта Назарбаеў рэзка настойваў на «чыста эканамічным» ЕАЭС, без аніякай палітыкі. Менавіта ў Астане Пуціну масава адпраўлялі падручнікі па гісторыі, калі ён заявіў, што «Назарбаеў — унікальны чалавек, зрабіў дзяржаву там, дзе яе ніколі не было». Не выключана, што добразычлівыя казахі маглі б нейкім чынам нагадаць Пуціну пра гэтыя словы падчас яго візіту на «нармандскі фармат». У Беларусі ж такога чакаць не даводзіцца.

## Што выцісне Мінск?

Нягледзячы на тое, што Лукашэнка не раз казаў пра сваю «міратворчасць», менавіта Мінск становіцца пляцоўкай для важных перамоваў па сітуацыі ў рэгіёне. Гэта, безумоўна, будзе скарыстана беларускай прапагандай як чарговы прарыў на міжнароднай арэне.

Сам візіт Меркель і Аланда, напэўна, будзе абсмоктаны прадзяржаўнымі аналітыкамі як «прызнанне памылковасці пазіцыі Еўропы ў дачыненні да беларускага кіраўніцтва, якую яны вялі на працягу больш дзесяці гадоў». На гэтым фоне можна весці размовы і пра еўрасанкцыі супраць афіцыйнага Мінска, прынамсі, пра «персанальныя санкцыі» ў адносінах да Аляксандра Лукашэнкі і некаторых беларускіх чыноўнікаў.

Досвед гэтага ў Еўропы ўжо ёсць. Паўтара гады таму ЕС дзеля паляпшэння магчымасці стасункаў з афіцыйным Мінскам «часова» зняў санкцыі з кіраўнік беларускага МЗС Уладзіміра Макея. Гэтае зняцце санкцый было, канешне, прынята «з магчымасцю перагляду», калі Макей не выканае ролю «паштовага голуба» паміж Мінскам і ЕС. Альбо ён гэтую ролю паспяхова выконвае, альбо пра перагляд рашэння забыліся: у Беларусі ўсё па-ранейшаму, уключаючы палітвязняў, а Макей прадстаўляе краіну ў замежжы.

Мінск ужо пачаў знешнепалітычную артпадрыхтоўку па гэтым пытанні. Літаральна напярэдадні «мінска-нармандскага фармату» той жа Макей выказаў пажаданне-патрабаванне, каб на сёлетнім саміце «Усходняга партнёрства» ў Рызе Беларусь была прадстаўленая «на раўнапраўнай аснове». Чытай — каб туды паехаў Аляксандр Лукашэнка.

На фоне візіту ў Мінск Меркель і Аланда гэтае патрабаванне выглядае лагічна, а Еўропа апынаецца ў двухсэнсоўным становішчы. Сапраўды, чаму Меркель і Аланду можна ездзіць у Мінск, а Лукашэнку ў Рыгу — нельга? Можа, і яму дазволіць скатацца ў Прыбалтыку? Што ў гэтым кепскага? Падавалася б, ну што такое — адзін візіт?

Справа ў тым, што нельга быць крыху цяжарным. Калі Лукашэнку прымаюць як кіраўніка дзяржавы на еўрапейскім саміце, калі ён едзе з афіцыйным візітам, гэта амаль аўтаматычна з'яўляецца ягонай легітымацыяй. Ён лічыцца легітымным кіраўніком дзяржавы, і, адпаведна, Еўропа прызнае вынікі беларускага галасавання як сапраўдныя выбары.

А калі былі сапраўдныя выбары, значыць, і разгон Плошчы–2010 слушны, і Статкевіч сядзіць законна, і рэпрэсіі пасля выбараў — не рэпрэсіі, а ўсяго толькі «навядзенне канстытуцыйнага парадку».

Наўрад ці Пуцін, абіраючы Мінск «зонай перамоваў», пра гэта думаў. Але ж афіцыйны Мінск свой статус арганізатара перамоўнага працэсу будзе скарыстоўваць напоўніцу. Як гэта атрымаецца — пытанне. Але тое, што спробы будуць — да варажбіткі не хадзі.

## Бінга! Выйгрыш!

У выйгрышы ў выніку «нармандскага фармату» ў Мінску застаецца сам афіцыйны Мінск. Наўрад ці «мінскі нармандскі фармат» прынясе канчатковы мір ва Украіну. Але ў любым выпадку, за гэтымі перамовамі будуць перамовы яшчэ і яшчэ — хаця б па вызначэнні статусу Данбаса. Аднак прарыў міжнароднай ізаляцыі беларускага кіраўніцтва як ніколі мае шанцы.

Як напісала нямецкая «Frankfurter Allgemeine»: «Праблема еўрапейцаў у тым, што дыктатар Лукашэнка ідзе ім насустрач — і, улічваючы геапалітычную канфрантацыю, навязаную ім Расіяй, яны павінны будуць, зменшага, часткова, пайсці на саступкі Лукашэнку». І з гэтым цяжка не пагадзіцца.

# Салодкае слова «байкот»

Сяргей ПУЛЬША

**Большасць лідараў апазіцыі зараз схіляецца да таго, што адзіным кандыдатам ад дэмсілаў на выбарах павінен быць Мікалай Статкевіч.**

Тое, што ён знаходзіцца ў вязніцы, па іх меркаванні, не павінна перашкаджаць Статкевічу быць кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Але па існуючых беларускіх законах наўрад ці гэта магчыма. Кандыдат на прэзідэнта павінен не толькі стварыць ініцыятыўную групу (з гэтым якраз праблемаў не будзе), але і асабіста зарэгістраваць групу ў ЦВК для збору подпісаў. Да таго ж, ён павінен прадставіць і пэўны пакет дакументаў, напрыклад, падатковую дэкларацыю. Як Статкевіч можа сабраць гэтыя дакументы і падаць іх у ЦВК — не вядома.

Увесь разлік грунтуецца на тым, што Статкевіча павінны вызваліць. Як мяркуе паплечнік Статкевіча Сяргей Скрабец, стварэнне яго ініцыятыўнай групы можа ісці пад лозунгам: «Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, патрабуем вызвалення палітычных зняволеных Статкевіча, Аліневіча, Дзядка, Васьковіча, Пракапенкі, Рубцова і далучаемся да ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь». І суправаджацца шырокай грамадскай кампаніяй «Свабоду Статкевічу і ўсім палітвязням».

Падтрымаў Скрабца і экс-кандыдат у прэзідэнты, лідар «Еўрапейскай Беларусі» Андрэй Саннікаў. Ён заявіў: «Найбольш разумным на сёння з'яўляецца тая прапанова, якую агучыў Скрабец». Прычым Саннікаў прапануе вылучаць Статкевіча ўсур'ёз: «Толькі без адгаворак, запасных варыянтаў і дублёраў».

Лічыць такі варыянт рэальным і кіраўнік зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч: «Вылучэнне Мікалая Статкевіча адзіным кандыдатам — самая прымальная, зразумелая, ясная і лагічная стратэгія з тых, якія могуць быць... Я ўпэўнены, калі дэмакраты вылучаць Статкевіча, то ён выйдзе на волю ўжо ў бліжэйшы час. Зарэгіструюць яго ў якасці кандыдата ці не — гэта ўжо больш складанае пытанне. Але ўлады вымушаны будуць вызваліць Статкевіча і іншых палітвязняў».

Безумоўна, вылучэнне Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты як форма змагання за ягоную свабоду — гэта вельмі моцны крок. Але нават калі ўлада вызваліць Статкевіча і зарэгіструе ініцыятыўную групу, то ў яго будзе не знятая на той час судзімасць, а «такіх не бяруць у прэзідэнты».

У выпадку нерэгістрацыі Статкевіча апазіцыя пагражае байкотам выбараў. «Павінна быць прынцыповая лінія: альбо Статкевіч становіцца адзіным кандыдатам і вылучаецца патрабаванне аб яго вызваленні, рэабілітацыі і рэгістрацыі, альбо байкот», — мяркуе Саннікаў. «Калі Статкевіча не зарэгіструюць, то ўдзельнічаць у гэтых выбарах нельга. У сітуацыі наяўнасці ў Беларусі палітвязняў адзінай формай удзелу ў выбарчай кампаніі можа быць толькі байкот», — кажа Дашкевіч.




Ці ёсць байкот выйсцем для апазіцыі? Палітолаг Аляксандр Класкоўскі з гэтым не згодны катэгарычна: «Найперш, пра байкот кажуць тыя сілы і структуры, якія не маюць вялікага рэальнага патэнцыялу і актыву. Хаця тут усё адназна: увогуле, апазіцыя зараз, мякка кажучы, не ў лепшай форме. Але структуры, у якіх ёсць пэўная сетка актывістаў: напрыклад, кампанія «Гавары праўду!», Рух «За Свабоду!», якія, хоць і салідарныя ў тым, што выбараў у Беларусі няма, абмяркоўваюць удзел у кампаніі, як магчымасць кантакту з электаратам і прасоўванне сваіх ідэй».

«Іншыя структуры становяцца на максімалісцкія пазіцыі. Гэта гучыць прыгожа, але іншым разам складаецца ўражанне, што імя Статкевіча, ягоны статус палітвязня — гэта прыкрыццё, каб прыгожа выйсці з гульні», — наракае палітолаг.

Па словах Класкоўскага, палітолагі напісалі ўжо стосы прац па тым, што байкот у Беларусі немагчымы. «Для сапраўднага байкоту трэба мець яшчэ большы ўплыў на масы, чым дзеля ўдзелу ў выбарах, каб паралізаваць выбарчы працэс. Аднак у апазіцыі зараз не тыя магчымасці і не той уплыў, не той аўтарытэт», — заўважае ён.

Няма ніводнага прыкладу, калі байкотам абвалілі дыктатуру. «Затое ёсць прыклады ашаламляльных выбараў, калі апазіцыя ўступала ў барацьбу на абсалютна не роўных умовах, і раптам пад ціскам форс-мажорных абставінаў рэжым абвальваўся. І сёння якраз такая сітуацыя: і ў плане фінансавым, і знешнепалітычным, калі ў маленькай Беларусі пад уплывам магутных знешніх чыннікаў сітуацыя можа змяніцца самым непрадказальным чынам за некалькі месяцаў. І, магчыма, больш мудрым ёсць прынцып Напалеона: «Увяжамся ў бойку, а там будзе бачна». Гэты ж прынцып, дарэчы, скарыстоўваў і Уладзімір Ленін, які з купкай бальшавікоў перакуліў магутны царскі рэжым», — лічыць Класкоўскі.

# Увайсці ў зону кампетэнтнасці

Андрэй ШЫНГАРОЎ,
«Беларусы і рынак»

**Апазіцыя павінна рабіць стаўку на палітычныя, а не на сацыяльна-эканамічныя праблемы, лічыць старшыня рады Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь» Уладзімір Мацкевіч.**

«Я думаю, што палітычнай апазіцыі якраз і трэба ставіць палітычныя пытанні. Толькі на палітычных пытаннях яны маюць шанец выклікаць давер, няхай не ў большасці, але хаця б у думаючай часткі грамадства. Бо праблемы беларускай апазіцыі не ў тым, што яна не мае падтрымкі большасці — яна не мае падтрымкі ўласнага электарату, тых людзей, якія ўжо разабраліся, адкуль нашы праблемы. То бок беларуская апазіцыя не карыстаецца падтрымкай менавіта таму, што кажа пра тое, чаго не можа рабіць і на што не можа паўплываць», — адзначае старшыня рады Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь».

Усе апошнія сацыялагічныя даследаванні фіксуюць высокую папулярнасць ідэі пераменаў у Беларусі. Так, паводле дадзеных зарэгістраванага ў Вільні Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, кардынальных пераменаў у Беларусі хацелі б 51,9% грамадзян, а падтрымка рынкавых рэформаў яшчэ вышэй — 63,2%.


Уладзімір Мацкевіч

Яшчэ больш высокая падтрымка пераменаў была зафіксавана Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў (BISS, Вільнюс) у ходзе даследавання грамадскай думкі ў рамках праекта «Рэфорум». На пытанне «Ці патрэбныя ў Беларусі рэформы?» станоўча («так» і «хутчэй так») адказалі 76% беларусаў, пры тым, што сярод дзяржслужачых Беларусі ідэю рэформаў падтрымліваюць 86%, а сярод прадстаўнікоў дзелавога асяроддзя — 98%.

Аднак сацыялагічныя даследаванні фіксуюць і іншую асаблівасць: пад рэформамі беларусы разумеюць амаль выключна сацыяльныя і эканамічныя змены, прычым часцяком у самым прымітыўным сэнсе — павышэнне заробкаў і пенсій. Палітычныя ж пераўтварэнні беларусы лічаць значна менш важнымі і не ўвязваюць наўпрост эканамічныя рэформы з палітычнымі.

З пункту гледжання Уладзіміра Мацкевіча, такое становішча тлумачыцца не апалітычнасцю беларусаў, а палітычнай, грамадзянскай і прававой непісьменнасцю значнай часткі насельніцтва.

«Гэтая непісьменнасць старанна культывуецца СМІ. Дарослыя людзі не ходзяць у школу, не наведваюць публічныя лекцыі і семінары, большую частку інфармацыі яны чэрпаюць са СМІ. А гэтыя СМІ часцяком ствараюць ілжывую, скажоную карціну рэчаіснасці, гэта значыць, папросту хлусяць», — падкрэслівае Мацкевіч.

Папулярнае меркаванне, згодна з якім у працы з насельніцтвам апазіцыя павінна рабіць стаўку на сацыяльна-эканамічную праблематыку, адсоўваючы пытанні палітычныя, бо менавіта такая расстаноўка прыярытэтаў характэрная для большасці беларускіх грамадзян.

Уладзімір Мацкевіч лічыць такі пункт гледжання памылковым. «Той, хто кажа, што не можа зрабіць штосьці, чаго ён не кантралюе, натуральна, не выклікае даверу. Я магу разважаць пра тое, як правільна арганізоўваць палёты ў космас, але паколькі я не спецыяліст у гэтай галіне, то чаго вартыя мае выказванні? Калі прадстаўнікі апазіцыі, людзі, якія маюць фізічную або гуманітарную адукацыю, пачынаюць разважаць пра тое, як кіраваць эканомікай, чаму выбаршчык павінен ім давяраць?» — задае ён пытанне.

Па словах Уладзіміра Мацкевіча, пра эканамічныя праблемы павінны гаварыць спецыялісты, паспяховыя прадпрымальнікі і банкіры. У вуснах жа апазіцыі такога кшталту развагі ўспрымаюцца проста як пустыя размовы.

«Іншая справа — прафсаюзныя лідары, яны маглі б падымаць сацыяльна-эканамічныя пытанні. Але для таго, каб прафсаюзныя лідары маглі быць пераканаўчымі, за імі павінны стаяць пэўныя сілы. У Беларусі ж прафсаюзы былі заціснутыя яшчэ ў другой палове 1990-х гадоў», — лічыць Мацкевіч.

Рабіць ж стаўку на эканамічную праблематыку, не маючы рычагоў уплыву ў гэтай сферы, бессэнсоўна.

«Так, вострыя тэмы трэба падымаць, але ў якім выглядзе і на што можа разлічваць чалавек, які іх падымае? Апазіцыя, якая адрэзаная ад улады, ад усялякага ўплыву, можа іх падымаць не больш як пустыя размовы», — перакананы Уладзімір Мацкевіч.

TV

## 22 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.00** Камедыйная меладрама «Снежны анёл» (Расія).
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**10.15** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).
**11.20** «Пра ежу!». Кулінарны майстар-клас.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.40** Трыумф. Героям спорту-2014.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.15** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.45** Выхад ёсць.
**17.20** Ваенны дэтэктыў «Зніклыя» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Трагікамедыя «Рэпэпэ. Рэжым поўнага пагружэння».
**00.10** Камедыйны серыял «Трохі не ў сабе» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.10** «Брэйн-рынг».
**13.00** «Тэорыя змовы».
**14.00** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Першая сусветная».
**17.10** «Рыхт-у-рыхт!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Танцуй!».
**23.05** «Калі любіш - даруй». Мастацкі фільм.



### СТВ

**06.00** «Студэнты 2». Серыял.
**07.30** Сардэчна паскардзіцца.
**07.50** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.15** «Імперыя ваўкоў».
**10.20** Чысты праца.
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «Два доўгіх гудкі ў тумане». Мастацкі фільм.
**13.05** «Дарагая перадача».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Тэлечасопіс. «Аўтапанарама».
**17.15** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Навальнічны перавал».
**22.30** «Пякельная кухня - 2».
**23.50** «Два доўгіх гудкі ў тумане». Мастацкі фільм.
**01.05** Дакументальны праект.

### Беларусь 2

**07.05** Камедыя «Падарожжы Гулівера».
**08.25** Вышэй за дах.
**08.55** Мультсерыял.
**11.30** Тэлебарометр.
**09.50** Fitnews. Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.25** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.00** Серыял «Пінгвіны з Мадагаскара».
**11.50** Я хачу гэта ўбачыць.
**00.25** Серыял «Ландыш серабрысты».
**14.10** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**15.10** Трылер «Чужы».
**17.15** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Баявік «Цень Якудза».
**23.10** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.55** Футбол. 1/16 фіналу. Агляд.
**00.45** Хакей для ўсіх.

### Беларусь 3

**08.00** «Той самы Мюнхгаўзен». Камічная фантазія. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).



**10.15** «Подых струн». Музычная праграма. Фестываль бардаўскай песні «Свеча горела...».
**10.55** «Наперад у мінулае».
**11.20** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.15** «Рэчавы доказ». «Чугунны сведка». Дакументальны фільм пра пачатак валадарання Пятра І.
**12.40** «Рэчавы доказ». «Цень лёсу». Дакументальны фільм пра праблематыку айчыннай археалогіі.
**13.05** «Кніга лёсаў. Гаўрыіл Вашчанка. Такі, як ёсць». Дакументальны фільм.
**14.00** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра першы беларускі джазавы аркестр і яго заснавальніка Эддзі Рознера.
**14.50** «Легенды кіно». «Паўлінка». Гісторыя стварэння знакамітага фільма-спектакля.
**15.00** «Размаўляем па-беларуску».
**15.05** «Джазавыя вечары ў філармоніі». Канцэрт польскай вакалісткі Ганны Марыі Ёпэк.
**16.10** «Сто першы». Ваенная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1982 г.).
**18.30** «Культпрасвет».
**22.40** «Культпрасвет».
**19.05** «Дні кахання». Драматычная камедыя (Італія, Францыя, 1954 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** А.Адан «Жызель». Спектакль Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра балета імя Леаніда Якабсона.

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Шахцёр» (Салігорск) - «Металург» (Жлобін).
**09.55** Біятлон. Гонка пераследу.
**10.55** Біятлон. ЧС у Раўбічах. Гонка пераследу. Юніёркі.
**11.50** Баскетбол. НБА. «Аклахома Сіці» - «Шарлот».
**13.25** Біятлон. ЧС у Раўбічах. Гонка пераследу. Юніёры.
**14.25** Біятлон. ЧС у Раўбічах. Гонка пераследу.
**15.15** Футбол. «Тотэнхэм» - «Вэст Хэм».
**17.00** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Дынама» (Рыга).
**19.10** Футбол. «Саўтгэмптан» - «Ліверпуль».
**21.10** Лёгкая атлетыка. Гран-пры.
**23.10** Футбол. Відэачасопіс.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** Казкі для дзетак.
**07.50** ПраСвет.
**08.30** Зона «Свабоды».
**09.05** «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**09.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.50** Два на два (тэледыскусія): Таццяна Вадалажская і Уладзімір Дунаеў.
**10.25** Рэпартэр.
**10.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавўчая праграма): Першая сусветная вайна і Беларусь.
**11.05** Казкі для дзетак.
**11.45** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял.
**12.10** Мова нанова: «Запраўка».
**12.30** Чорным па белым.
**12.55** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.
**13.45** «Заўтра», дак. фільм.
**15.15** «Справы Бяляцкага», рэпартаж: ч. 1.
**15.35** «Рычард III», гіст. драма.
**17.20** «Ранча», серыял.
**18.00** Форум (ток-шоу): Дачакаемся.
**18.45** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Браніслаў Тарашкевіч.
**20.05** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**20.35** «Справы Бяляцкага», рэпартаж: ч. 2.
**20.55** Кінаклуб: «Майдан».
**21.05** «Майдан. Рэвалюцыя годнасці», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**23.15** «Барзах. Між жыццём і смерцю», дак. фільм.
**00.15** «Mad Men. Утрапёныя III», серыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ________
Кассир Всего ________




# Турэцкая труба для Пуціна

Мікалай АНІШЧАНКА

**Альтэрнатыўны газаправод для дастаўкі расійскага паліва ў краіны Паўднёвай Еўропы патрэбны і Анкары, і Маскве. Адрозненне ў тым, што Турцыя зможа без яго пражыць.**

Візіт Пуціна ў Анкару ў снежні мінулага года расійскія СМІ падавалі не іначай як прарыўны. Пуцін абвясціў, што дамовіўся з Эрдаганам пра будаўніцтва «Турэцкай плыні» — наземнага газаправоду з Расіі ў краіны Паўднёвай Еўропы, большая частка якога павінна прайсці праз тэрыторыю Турцыі. Яго будаўніцтва выгадна абедзвюм краінам. Аднак апошнім часам нешта пайшло не так.

### Анкара занепакоеная

Кіраўнік турэцкага МЗС Меўлют Чавушаглу напрыканцы студзеня публічна абураўся: расійскія ўлады дагэтуль ніяк не адрэагавалі на занепакоенасць Анкары парушэннем правоў крымскіх татараў на анексаваным Расіяй паўвостраве. Маўляў, Пуціну асабіста перадалі пісьмовы спіс такіх парушэнняў, у якім ёсць факты пераследаванняў, нападаў і забойстваў. «Мы бачым, што па гэтым пытанні няма прагрэсу, ціск уладаў непрызнанай «Рэспублікі Крым» на крымскіх татараў толькі большыцца», — заявіў Чавушаглу і акрэсліў такую сітуацыю як непрымальную.

Праз некалькі дзён пасля гэтай заявы з рэзкай крытыкай у бок Масквы выступіў прэзідэнт Эрдаган. Ён намякнуў, што «адна краіна» не дазваляе правесці рэформу Рады бяспекі ААН, у выніку якой яе часовыя чальцы атрымалі б больш паўнамоцтваў (рэформа Рады патрэбная Анкары, каб, прынамсі, прасунуць рашэнні па Сірыі). Эрдаган таксама заявіў, што прагрэсу ў сірыйскім пытанні замінаюць Расія і Кітай.

Такім чынам, прыязны партнёрскі тон Турцыі да Масквы рэзка змяніўся ці не на супрацьлеглы. На гэтым фоне амбасадару Турцыі ў Расіі Уміту Ярдыму давялося супакойваць расійскіх журналістаў. Ён заявіў, што тэхнічная рэалізацыя «Турэцкай плыні» пачалася. Дыпламат нагадаў, між іншым, што неабходнай фармальнай згоды Анкары на будаўніцтва яшчэ няма, а сам праект чакае вырашэння шматлікіх праблем — напрыклад, вызначэння таго, па якім маршруце будзе пракладзеная «труба».

Наўрад ці амбасадар не ведаў, што маршрут газаправоду на момант заявы ўжо быў узгоднены «Газпрамам» і турэцкай кампаніяй «Botas». Падпісаныя ж у снежні дакументы мелі статус пратаколу аб намерах; а вось міжурадавага пагаднення, пасля якога праект набыў бы рэальныя абрысы, яшчэ няма. Яго падпісанне запланавана на другі квартал 2015 года. У гэтым кантэксце раптоўна ўзнікшыя прэтэнзіі Анкары выглядаюць як настойлівая рэкамендацыя Крамлю асадзіць назад у некалькіх пытаннях.

### Момант для крытыкі

Серыя крытычных выказванняў турэцкіх кіраўнікоў у бок Масквы прагучала ў той момант, калі колькасць расійскіх турыстаў на курортах турэцкага Міжземнамор'я адчувальна зменшылася, а ўплыў Расіі на Блізкім Усходзе ці не зніякавеў.

Наступ на Расію па сірыйскім пытанні раней ужо ажыццявіла Саудаўская Аравія, патрабаваўшы ад Крамля адмовіцца ад падтрымкі Башара Асада ў абмен на павышэнне коштаў на нафту. Аднак казаць аб тым, што гэта звёны аднаго ланцуга, не выпадае: у Анкары і Эр-Рыяда занадта розныя інтарэсы і ў Сірыі, і ў рэгіёне ў цэлым, дый уявіць сабе, што саудзіты і туркі гуляюць у адной камандзе, наўрад ці магчыма.

Пытанне крымскіх татараў для турэцкіх уладаў больш важнае: хоць у Турцыі іх пражывае ўсяго 100–150 тысяч, гэтая лічба супастаўляльная з колькасцю татараў у самім Крыме (каля 250 тысяч). Да праблемаў крымскіх татар у Турцыі прыкаваная ўвага ці не ўсяго карэннага грамадства — і губляць палітычныя балы кіруючай у Турцыі Партыі справядлівасці і развіцця не хочацца.

Аднак да перамены тону, якім Анкара размаўляе з Масквой, маглі спрычыніцца і іншыя фактары.

Па-першае, Турцыя ёсць чальцом NATO — структуры, якую расійскія ўлады абвясцілі варожай. Наўрад ці генералам Альянсу прыйшлося даспадобы імкненне Анкары дапамагчы краіне, якая ўсё настойлівей выгінае свае ядзерныя цягліцы.

Па-другое, з патэнцыйным расійскім кантрактам у якасці козыру Турцыя магла выйграць покерную партыю з Берлінам. Наўрад ці ў прыкупе — сяброўства ў Еўрасаюзе, якога Анкара прагне ўжо другое дзесяцігоддзе. Але новы, больш шчыльны фармат узаемадзеяння — гэта тое, на што еўрапейскія ўлады маглі б пайсці ў новых палітычна-эканамічных рэаліях.

Нарэшце, гучныя заявы з турэцкага боку супалі з вынікамі выбараў у Грэцыі, дзе перамаглі радыкалы з партыі «Сірыза». Паводле праекта газаправоду, буйнейшы газавы хаб павінен размясціцца на мяжы Турцыі і Грэцыі. «Сірыза» ж вядомая сваёй прарасійскай, але жорстка антытурэцкай пазіцыяй.

### Ахілесава пятка

Хто б насамрэч ні спраўкаваў перашкоды ў стасунках Анкары і Масквы, турэцкі газаправод — выдатная глеба для маніпулявання Пуціным, бо незалежны ад ЕС маршрут паставак блакітнага паліва патрэбны яму як жыццё.

Актыўная рэалізацыя праектаў Паўночнай і Паўднёвай «плыняў» пачалася з прыходам да ўлады Пуціна ў 2000 годзе, але фактычна да будаўніцтва першай ніткі «Паўночнай плыні» прыступілі ў 2010 годзе. Ідэя трубаправодаў па нічыйным марскім дне палягала ў тым, каб пазбавіць краіны-транзіцёры расійскага газу — Украіну і Беларусь — рычагоў ціску на Крэмль. «Паўночную плынь» пабудавалі паспелі; але неўзабаве падзеі ў Крыме і Данбасе прымусілі еўрапейскія краіны перагледзець сваё стаўленне да закупак расійскага газу, скарацўшы іх, наколькі гэта магчыма.

Заходняя Еўропа ад расійскіх вуглевадародаў амаль не залежыць; значна горш пачуваюцца краіны былога сацлагеру. Галоўная абаронча зброя апошніх — тэрміналы звадкаванага прыроднага газу, якія дазваляюць прымаць буйныя караблі з нарвежскім і танным катарскім газам. Першай такі тэрмінал пабудавала Літва; у 2015 годзе мае адкрыцца буйны газапрыймальнік у польскім Свінауйсце, які з выхадам на праектную магутнасць забяспечыць прыём 7,5 мільярда кубаметраў газа штогод — пры агульнапольскіх патрэбах у 9 мільярдаў кубаметраў. Аднак паўднёвыя краіны Еўропы — як чальцы Еўрасаюза, так і не — не могуць пахваліцца такой інфраструктурай, таму па меншай меры на бліжэйшае дзесяцігоддзе Расія мае ў Грэцыі, Балгарыі, Сербіі і іншых краінах рэгіёну цвёрды рынак збыту для свайго паліва.

Вядома, што газ Масква можа пастаўляць і па дзеючай інфраструктуры — прынамсі, па ўкраінскай энергасістэме, якая функцыянуе нягледзячы на вайну. Аднак транзітны кантракт паміж Расіяй і Украінай заканчваецца ў 2019 годзе. Паспяховы турэцкі праект, прынамсі, дазволіў бы Крамлю поўнасцю адмовіцца ад украінскага газавага транзіту.

Але галоўны чыннік для Пуціна — унутрыпалітычны. Расійскі газ прадаваць кудысьці трэба. Працяглы спад кітайскай эканомікі зменшае тамтэйшы рынак, які і без таго насычаны танным туркменскім і іранскім палівам. Да таго ж, будаўніцтва новай ніткі газаправоду ў Кітай, якая мела б супастаўляльную з «плынямі» прапускную здольнасць, вымагала б пракладкі соцень і тысяч кіламетраў «трубы» па вечнай мерзлаце — а гэта зусім іншыя выдаткі, якія пры жорстка акрэсленых Пекінам закупных коштах могуць ніколі не акупіцца. Турэцкі ж прарыў сваіму электарату Пуцін ужо легкадумна паабяцаў — і паразу на гэтым напрамку расійскі абывацель яму наўрад ці даруе.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Цяперашні стан ЗВР краіны з улікам памеру знешняга доўгу і тэндэнцыі зніжэння экспарту плюс традыцыйна нізкага для Беларусі ўзроўню замежных інвестыцый з'яўляецца больш чым крытычным. Эксперты нагадваюць, што бяспечным лічыцца памер ЗВР, які пакрывае як мінімум імпарт трох месяцаў. Ва ўмовах Беларусі гэта 10,5 мільярда у.а. У той жа час калі гаворка ідзе пра няўстойлівыя эканомікі накшталт беларускай, гэтая сума павінна быць у два разы большай. Аналіз сітуацыі ў эканоміцы пакуль не дае падстаў для надзеі — ні росту экспарту, ні замежных інвестыцый, што можа стаць прычынай папаўнення ЗВР, не назіраецца.

**«Независимая газета» (Расія)**

Праблема ўведзеных Захадам супраць Расіі санкцый (і мер у адказ з боку РФ) ужо стала прычынай рэзкага абвастрэння адносін паміж Масквой і Мінскам. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка не толькі не падтрымаў палітыку Расіі ў дачыненні да Украіны, але і, па-першае, хоць і ўскосна, але досыць ясна выказаў сваю нязгоду з ёй, а па-другое, паспрабаваў выкарыстаць узніклую сітуацыю з карысцю для сваёй краіны. Пад выглядам беларускіх тавараў у Расію пайшлі еўрапейскія прадукты, якія трапілі пад санкцыі. Высветлілася, напрыклад, што Беларусь, аказваецца, з'яўляецца буйной марской дзяржавай — інакш адкуль бы з'явіцца такой колькасці морапрадуктаў з беларускімі ярлыкамі?

**«Ноев Ковчег» (Арменія)**

На маючым адбыцца ў маі ў Рызе саміце Усходняга партнёрства можа быць парафіравана пагадненне паміж Беларуссю і ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму. Падобныя заявы міністэрства замежных спраў Латвіі ўкладваюцца ў агульную тэндэнцыю ЕС па ўключэнні Беларусі ў сферу сваёй арбіты. Паміж Беларуссю і Еўропай перыядычна ўзнікаюць то пацяпленні, то замаразкі. Цяперашняя сітуацыя якраз спрыяе пацяпленню, чаным не прамінуў скарыстацца прагматычны Лукашэнка.

**«Блокнот» (Латвія)**

Найбольш абясцэнілася ў гэтым годзе валюта свету, якая называецца «рубель». Але ён не расійскі. Гэта валюта Беларусі — краіны, якой усе вялікія нязручнасці дастаўляе яе празмернае сяброўства з Расіяй. (...) У цэлым, сённяшнія праблемы Беларусі з'яўляюцца наглядной ілюстрацыяй рызыкаў, якія павінны ўлічваць постсавецкія краіны, што думаюць пра ўступленне ў пуцінскі Еўразійскі эканамічны саюз. Нават калі Украіна ніколі не стане сябрам Еўрасаюза, яе адмова ад сяброўства ў ЕЭС была правільным рашэннем. Мець занадта цесныя палітычныя і эканамічныя сувязі з Расіяй занадта небяспечна. Па меншай меры, пакуль у Крамлі сядзіць Пуцін, а дабрабыт Расіі залежыць ад зменлівых цэнаў на энерганосьбіты.

**«Chicago Tribune» (ЗША)**

У выпадку поўнамаштабнай вайны Беларусь адназначна ператворыцца ў расійскі плацдарм, хоча гэтага Лукашэнка ці не. Расія не сустрэне ніякага супраціву ні з боку беларускай улады, ні з боку беларускай арміі, якая практычна цалкам інтэграваная ў сістэму абароны Расіі, а таксама кіруецца альбо рускімі афіцэрамі, альбо беларусамі, якія вучыліся ў Расіі.

**«Новое Время» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. 40 гадоў таму Тэтчэр стала лідарам кансерватараў

11 лютага споўнілася 40 гадоў, як Маргарэт Тэтчэр была абраная лідарам Кансерватыўнай партыі Вялікабрытаніі. Сёння прэса намагаецца высвятліць розныя аспекты той падзеі, і ў тым ліку тое, што грамадства і самі кансерватары чакалі ад новага лідара торы. Калі меркаваць па тагачасных публікацыях, грамадства больш цікавіла тое, што ўпершыню лідарам адной з дзвюх вядучых партый краіны стала жанчына (гэта дасюль застаецца адзіным выпадкам у брытанскай гісторыі). Таксама прэса ў лютым 1975 года была трошкі здзіўленая вынікам галасавання. Фаварытам лічыўся былы прэм'ер Эдвард Хіт, хаця ён і прайграў выбары ў 1974-м. Аднак у выніку Маргарэт нечакана здолела скласці яму канкурэнцыю, мабілізаваўшы нізавы актыў кансерватараў, які жадаў рашучага правадыра. У выніку ў першым туры 4 лютага дэлегаты партыйных збораў далі ёй на 11 галасоў больш, чым Хіту (130 супраць 119). Гэта настолькі ўразіла Хіта, што ён адмовіўся ад балаціроўкі. У другім туры 11 лютага Тэтчэр не мела праблем, атрымаўшы 53 працэнты галасоў. У прынцыпе, усе цяперашнія каментатары згодныя, што дэлегаты самі не разумелі, што сваім галасаваннем у лютым 1975-га запускаюць рэвалюцыйныя працэсы, якія зменяць краіну і свет.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КІТАЙ. Нашто краіне казахскія нацмены?

У Сіньцзян-Уйгурскім аўтаномным раёне на захадзе Кітая, дзе пражывае паўтара мільёны казахаў, пачалі выдаваць газету «Цэнтр Азіі» на казахскай мове. Падзея, па словах спецыялістаў, незвычайная. Па-першае, выданне будзе цалкам фінансавацца ўрадам, хаця ў рамках цяперашняй рэформы дзяржаўнай прэсы ў Кітаі шматлікія афіцыйныя СМІ зачыняюць і пераводзяць у інтэрнэт-фармат. Таксама дзяржава бярэ на сябе праблему распаўсюду газеты. Мала хто верыць, што Пекін пачаў выданне газеты без нейкага палітычнага намеру. Магчыма, кітайскія ўлады шукаюць сярод казахаў саюзнікаў у барацьбе з мясцовымі уйгурскімі нацыяналістамі, якія жадаюць выхаду з-пад кантролю Кітая. Другая версія — газета з'яўляецца доказам намераў Пекіна працягваць палітыку экспансіі ў Цэнтральную Азію.

**Паводле казахскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Уводзіцца клятва грамадзяніна

Прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў выдаў Указ аб унясенні зменаў у закон «Аб грамадзянстве Азербайджанскай Рэспублікі», згодна з якімі грамадзяне Азербайджана па дасягненні 14-гадовага ўзросту павінны будуць прыносіць клятву грамадзяніна. Гэта ж тычыцца асобаў старэйшых за 14 гадоў прынятых або аднаўленых у грамадзянстве. Цырымонія прынясення прысягі, як патрабуе закон, павінна праводзіцца выключна каля сцягу Азербайджана. Кожны, хто прыносіць прысягу, будзе падпісваць дакумент, які затым будзе захоўвацца ў адпаведным органе выканаўчай улады. Незвычайная ініцыятыва выклікала шмат каментараў у азербайджанскім сегменце інтэрнэту. Сэнс увядзення клятвы, шчыра кажучы, ніхто не зразумеў, аднак усе згодныя, што на гэтым улады не спыняцца. Самая папулярная версія бліжэйшай будучыні — у якасці наступнага кроку ад кожнага грамадзяніна запатрабуюць пад пагрозай штрафу мець дома тэкст азербайджанскай Канстытуцыі і дзяржаўны сцяг.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### ІРЛАНДЫЯ. Мода на Грэцыю



Перамога ў Грэцыі радыкальных сацыялістаў з кааліцыі «Syriza» натхніла шмат каго ў Еўропе на тое, каб паўтарыць поспех Алексіса Цыпраса. Так, напачатку лютага ў Ірландыі адбыўся ўстаноўчы сход Альянсу супраць жорсткай эканомікі (ААА), які ўзначаліў дэпутат Пол Морфі (31 год). Заснавальнікі ААА лічаць, што сітуацыя ў краіне, дзе крызіс цягнецца ўжо 7 гадоў, дазваляе ім паўтарыць «грэчаскі сцэнар», прычым ужо праз два гады, калі пройдуць наступныя парламенцкія выбары. Першым крокам на шляху стане кампанія ў красавіку супраць новых падаткаў. Самае незвычайнае ў гэтай сітуацыі — тое, што «Syriza» даўно мае саюзніка ў Ірландыі. Гэта партыя Шын Фейн (былая палітычная вітрына тэрарыстаў з Ірландскай Рэспубліканскай Арміі), якая, маючы 25 працэнтаў падтрымкі, лічыцца галоўнай партыяй левай апазіцыі. Аднак Пол Морфі і яго паплечнікі намагаюцца гэты факт не заўважаць.

**Паводле французскай прэсы**




# SWIFT супраць дыктатуры

*Алег НОВІКАЎ*

**У якасці адной з магчымых формаў ціску на Пуціна разглядаецца адключэнне расійскіх банкаў ад сістэмы SWIFT. Тры гады таму такая ж мера была ўведзеная супраць банкаўскіх інстытутаў Ірану. Ці прынесла яна плён?**

SWIFT прыдумалі бельгійцы ў 1973 годзе, калі прыкладна 200 банкаў свету дамовіліся рабіць трансферы па агульных стандартах. Праект аказаўся вельмі запатрабаваным у банкаўскім свеце, асабліва калі пачалася глабалізацыя і працэнт замежных пераводаў у агульнай масе банкаўскай дзейнасці значна вырас. На цяперашні дзень сетка SWIFT уключае ў сябе каля 10 200 банкаў у 200 краінах свету. Штогод праз сетку праходзяць плацяжы на суму 2,5 мільярда долараў.

У краінах, якія моцна залежаць ад экспарту-імпарту, SWIFT увогуле ператвараецца ў адзін з ключавых інстытутаў фінансавага сектару. Да такіх краінаў належаў і Іран, галоўнай крыніцай даходаў якога, як вядома, ёсць нафтавы экспарт. Не дзіўна, што санкцыі з боку Захаду, які прыкладна з 2006-га намагаўся прымусіць Тэгеран адмовіцца ад атамнай праграмы, былі накіраваныя на тое, каб падарваць нафтавы гандаль. Яшчэ ў 2005-м пачала агучвацца ідэя т. зв. «падвоенай атакі» — пасля ўвядзення нафтавага эмбарга таксама выключыць Іран з сістэмы SWIFT.

Галоўнымі лабістамі прапановы адключыць Іран ад SWIFT былі Ізраіль і ЗША (па-сутнасці, рашэнне было канчаткова прынята пасля сустрэчы Барака Абамы і Біньяміна Нетаньяху). Праўда, сам механізм прымусу бізнесменаў (SWIFT — гэта прыватная кампанія) да прыняцця палітычнага рашэння дасюль цалкам не зразумелы. Сама кампанія заявіла, што пайшла на такі крок пасля ўвядзення санкцый Еўрасаюза супраць Ірану. Так ці інакш, 14 сакавіка 2012 года Іран стаў банкаўскім ізгоем.

Ініцыятары такой меры лічылі, што для кіраўнікоў Ірану такі крок будзе мець вельмі сур'ёзныя наступствы. Напрыклад, Нетаньяху прагназаваў хуткі параліч дзейнасці іранскага ўраду. Міністр эканомікі ў яго ўрадзе чакаў калапсу эканомікі Ірану.

Што атрымалася на самай справе? З улікам таго, што апакаліпсісу ў Іране пасля 14 сакавіка 2012-га не адбылося, можна казаць, што ўдар аказаўся не такім ужо і смяротным, хаця іранскую эканоміку вельмі ліхаманіць.

**«Выкарыстанне сістэмы SWIFT у якасці інструмента вайны аказалася памылкай, якая паскорыла падзенне долара і, як следства, ЗША», — заключае адно з французскіх СМІ**

Затое, па-першае, рэпутацыя SWIFT як незалежнай ад палітыкі структуры аказалася заплямленая. Як вынік, у Трэцім свеце назіраюцца спробы стварэння сваіх аўтаномных сістэмаў. Напэўна, самая развітая з іх — hawala. Яна распаўсюджаная ў краінах Блізкага Усходу, і ў тым ліку дазваляе праводзіць трансферы з Ірану ў краіны Захаду.

Па-другое, гандляваць з Іранам адмовіліся толькі на Захадзе, у той час як усходнія краіны не сталі разрываць эканамічныя кантракты з Тэгеранам. Гэта прывяло да большай ступені аўтаноміі Ірану ад заходніх рынкаў. За час дзеяння санкцый галоўным камерцыйным партнёрам Ірану паступова стаў Кітай.

Нарэшце, на думку некаторых аналітыкаў, дзякуючы банкаўскай блакадзе быў нанесены моцны ўдар па сусветнай доларавай сістэме (SWIFT гандлюе праз долары і золата). Кітай і Індыя, якія жадалі купіць іранскую нафту, былі вымушаныя шукаць іншыя (не доларавыя) метады разліку па нафтавых здзелках. Галоўным чынам гэта былі разлікі ў нацыянальных валютах і праз бартэр. «Выкарыстанне сістэмы SWIFT у якасці інструмента вайны аказалася памылкай, якая паскорыла падзенне долара і, як следства, ЗША», — заключае адно з французскіх СМІ.

У Іране таксама шырока распаўсюджаная практыка гандлю праз банкі суседніх краінаў, дзе працуюць з SWIFT. Распрацаваная таксама схема U-turn, праз якую іранцы выводзяць свае грошы праз валюту іншых краін на дэпазіты ў ЗША і атрымліваюць назад амерыканскія долары. У такіх аперацыях падазраюцца не нейкія маргінальныя ўстановы, а такія салідныя банкаўскія канторы, як Royal Bank of Scotland, UniCredit, HSBC, Société Générale і Crédit Agricole. Яшчэ адна вялікая дзірка ў рэжыме банкаўскіх санкцый — фінансавы рынак Афганістану. У кабульскіх валютчыкаў можна лёгка памяняць іранскія рэалы на долары.

Адным словам, Захад не можа забяспечыць поўны кантроль над падтрыманнем рэжыму санкцый. Акрамя таго, як дзяржаўны, так і прыватны сектар краіны супраць якой дзейнічаюць санкцыі, можа знайсці і эфектыўна выкарыстоўваць абходныя шляхі. Таму ў гэтай галіне ўрадам Захаду трэба яшчэ працаваць і працаваць.

Нарэшце, самым супярэчлівым момантам банкаўскіх санкцый праз SWIFT ёсць іх гуманітарны эфект. Калі верыць брытанскай прэсе, першай ахвярай адключэння Ірану ад SWIFT сталі не банкі, а хворыя, для лячэння якіх трэба было набываць лекі за мяжой. Не будучы здольнымі аператыўна іх замаўляць і атрымліваць, людзі аказаліся асуджанымі на смерць. Па статыстыцы, з-за выключэння SWIFT памерлі каля 30 чалавек, якія пакутавалі на рак, праблемы з дыханнем і г.д. Гэтыя трагедыі сталі добрым матэрыялам для антызаходняй істэрыкі на старонках іранскай прапагандысцкай прэсы.

# Каму патрэбны латвійскі Данбас?

Алег НОВІКАЎ

**Хуліганы, правакатары, прадстаўнікі пятай калоны, ЦРУ… Хто на самай справе можа стаяць за праектам Латгальскай Народнай Рэспублікі, што напрыканцы студзеня была абвешчана ў сецiве?**




Латгальскі сепаратызм або аўтанамізм — старая тэма, якая перыядычна ўзнікае ў латвійскай палітычнай дыскусіі. Прычынай, безумоўна, з'яўляецца наяўнасць лакальнай ідэнтычнасці жыхароў паўднёва-ўсходняй Латвіі, дэпрэсіўны стан мясцовай эканомікі, вялікі працэнт рускамоўных у рэгіёне (60 працэнтаў), лідары якіх часта ўздымаюць латгальскае пытанне. Апошняе вельмі дзіўна, паколькі самі латгалы гістарычна належаць да балтаў. Ёсць нават думка, што слова «Латвія» пайшло ад слова «Латгалія».

Паколькі латгальская тэма стала фішкай «Рускага свету», усялякі заклік за аўтаномію краю традыцыйна выклікае насцярожанасць у Рызе. Што ўжо казаць пра заклік да выхаду рэгіёну са складу краіны. Напрыканцы студзеня ў Facebook з'явіўся акаўнт Латгальскай Народнай Рэспублікі (ЛНР) — фармавання, якое выступае за стварэнне незалежнай Латгаліі. Тут жа можна было азнаёміцца з сімволікай ЛНР — герб (белы Грыфон на чырвоным шчыце), сцяг (гарызантальнае сіне-бела-сіняе палотнішча) плюс карта віртуальнай краіны, у якую яе бацькі-стваральнікі ўключылі 18 раёнаў плюс гарады Даўгаўпілс і Рэзекне.

Дэмарш латгальскіх сепаратыстаў стаў адной з галоўных тэмаў латвійскай стужкі навінаў. Праўда, агульнай думкі, што стаіць за ЛНР, няма. У Маскве: «Амаль адначасова мы назіралі заявы аб стварэнні «Віленскай» рэспублікі ў Літве і «Нарвскай балтыйскай рэспублікі» ў Эстоніі. Так што, натуральна, нейкая каардынацыя існуе», — заўважае латвійскі палітолаг у інтэрв'ю «Голасу Амерыкі».

Выданне la.lv мяркуе, што ідэя Незалежнай Латгаліі, сапраўды, нарадзілася ў галовах прарасійскіх актывістаў Латвіі, аднак аўтаномна ад Масквы. Звяртаецца ўвага на тое, што адрас старонкі ЛНР у Facebook упершыню з'явіўся ў выглядзе паста да каментара аднаго з лідараў мясцовай рускамоўнай камуны. Іншымі словамі, ЛНР узнікла як спантанная рэакцыя. Сапраўды, стварыць акаўнт няцяжка. Пра тое, што аўтары ЛНР працавалі на хуткую руку, сведчыць і выява грыфона з герба ЛНР. Гэту выяву проста ўзялі з лагатыпа адной з латышскіх інтэрнэт-газет, прычым нацыяналістычнай.

У сувязі з гэтым папулярная думка, што нехта проста вырашыў пажартаваць з рыжскіх уладаў. Нават прарасійскія актывісты пагаджаюцца, што канфліктны патэнцыял у Латгаліі вельмі нізкі. «Гэта не больш чым тролінг. І вельмі дзіўна, што латвійскія спецслужбы і паліцыя звяртаюць на гэта ўвагу. Тое, што ўрад і сілавікі павяліся на жарт, кажа толькі аб тым, што ўрад неадэкватна функцыянуе і слаба ўяўляе, што адбываецца ў іх краіне, ды і ў свеце ў цэлым», — адзначае Аляксандр Дзюкаў, адзін з памяркоўных лідараў расійскай камуны.

Калі меркаваць па каментарах на латвійскіх рускамоўных сайтах, да такой жа думкі схіляецца і большасць «латгальскай» аўдыторыі. Тут дамінуюць іранічныя каментары, напрыклад: «Крута. Давайце ўвесь свет падзелім на народныя рэспублікі», ці: «Што гэта за герб?! Забярыце яго… Мы сабе лепей прыдумаем!».

У сувязі з тым, што праект самастойнай Латгаліі выглядае неадэкватным нават для большасці рускамоўных, з'явілася думка пра правакацыю з боку ўлады. Яе сэнс тлумачыць адзін з блогераў: «Хутчэй за ўсё, гэта чарговае «ўкідванне», якое, верагодна, зрабіў урад для распальвання нацыяналістычнай істэрыкі ў краіне… Укінулі і глядзяць — колькі нас (рускамоўных) за і колькі супраць… Ці змогуць яны зладзіць тое, што на Украіне, ці не?»

Ёсць проста фантастычныя тэорыя, адэпты якой лічаць, што ЛНР прыдумалі ў… ЦРУ. Логіка тут наступная: «ЛНР стварылі з падачы Дзярждэпа. Правакуюць тытульных грамадзян (латвійцаў) да ўкраінскага варыянту, каб Масква пасля выступіла ў абарону рускамоўных. Латгалія — небарака, якраз на мяжы з Расіяй. Хочацца ім яшчэ і з гэтага краю падпаліць. Самі падумайце: народу там — як налеташняга снегу. Пенсіянеры ў асноўным ды трошкі дзетак. Каму там лагатыпы з грыфонамі маляваць?»

З улікам дэфіцыту інфармацыі (акаўнт ЛНР у Facebook не абнаўляецца), цяжка зрабіць выбар на карысць адной з пералічаных вышэй версій. Хутчэй за ўсё, на дадзеным этапе дыскусіі вакол ЛНР можна дакладна казаць выключна пра ролю інфармацыі ў сучасным палітычным працэсе. Прычым, як бачым, нават падобная на фэйк інфармацыя можа мець сур'ёзныя наступствы.

Можна, канешне, яшчэ ўзгадаць, што некалі Латгалія належала ВКЛ, і дзяржаўнай мовай тут была беларуская. Дарэчы, латгальскі дыялект і зараз вельмі падобны да беларускай мовы.




**Напрыканцы студзеня ў Facebook з'явіўся акаўнт Латгальскай Народнай Рэспублікі (ЛНР) — фармавання, якое выступае за стварэнне незалежнай Латгаліі. Тут жа можна было азнаёміцца з сімволікай ЛНР — герб (белы Грыфон на чырвоным шчыце), сцяг (гарызантальнае сіне-бела-сіняе палотнішча)**

Напрыклад, латвійскія спецслужбы паведамляюць, што знайшлі ў гэтай справе «расійскі след», хаця доказы пакуль ускосныя. «Распаўсюд у публічнай прасторы ідэй, накіраваных на аспрэчванне замацаванага ў Канстытуцыі прынцыпу тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, адпавядае геапалітычным інтарэсам Расіі», — заявілі прадстаўнікі паліцыі бяспекі.

Правыя палітолагі Латвіі згодныя з логікай латвійскіх спецслужбоўцаў. Так, эксперт Оярс Скудра дапускае, што ЛНР магла быць ініцыяваная

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэджэп Тайіп Эрдаган



Прэзідэнт Турцыі 10 лютага пакінуў першы запіс у Twitter, што стала падзеяй нацыянальнага маштабу. Справа ў тым, што турэцкі гарант даўно мае рэнаме праціўніка Twitter. «Твітэр-шмітэр!» — неяк сказаў палітык пра гэты сэрвіс, які быў ключавым інструментам мабілізацыі праціўнікаў падчас антыўрадавых акцый у 2014 годзе. Словамі палітык не абмяжаваўся. Эрдаган таксама спрабаваў некалькі разоў змагацца з Twitter, патрабаваўшы, каб турэцкі ўрад прыняў праграму «нейтралізацыі шкоднага кантэнту». Сэнс заключаўся ў тым, што ўладальнікі Twitter мусілі блакіраваць па патрабаванні турэцкіх чыноўнікаў акаўнты крытыкаў Эрдагана. Закончылася гэта шэрагам судовых працэсаў, па выніках якіх суддзі прызналі права туркаў карыстацца сэрвісам. Аднак з часам Эрдаган, падаецца, перагледзеў свае адносіны да Twitter і нават, як бачым, завёў свой акаўнт. Шматлікія туркі маюць надзею, што гэта будзе пачаткам новай больш ліберальнай палітыкі ўлады адносна пытання цэнзуры ў сецiве. Што тычыцца зместу першага твіта Эрдагана, то ён быў прысвечаны Дню барацьбы з курэннем, які адзначаецца 9 лютага. «Не паддавайся цыгарэце!» — заклікаў турэцкі гарант.

### Сі Цзыньпін



Калі верыць кітайскай прэсе, эмісары старшыні кітайскага ўраду Сі Цзыньпіна пачалі перамовы з тайскім урадам наконт новага мегапраекту. Гаворка пра тое, каб пракапаць канал праз Малайскі паўвостраў з Паўднёва-Кітайскага мора ў Індыйскі акіян. У апараце кітайскага Саўміну ўжо падлічылі, што для рэалізацыі праекту спатрэбіцца каля 25 мільярдаў долараў. Праект, дарэчы, мае даўнія гістарычныя перадумовы. Сотні гадоў таму тайскія каралі планавалі пабудаваць суднаходны канал у самым вузкім месцы Малайскага паўвострава для магчымасці хуткага перакідвання ваеннага флоту з заходняга ўзбярэжжа на ўсходняе і назад. Рэалізацыя праекта будзе мець вялікія геапалітычныя наступствы. Калі канал уступіць у эксплуатацыю, знізіцца дамінуючае значэнне порта Сінгапур. Праект дастаткова рэалістычны з улікам таго, што не так даўно ў Нікарагуа кітайцы пачалі будаваць канал альтэрнатыўны Панамскаму. У якасці ўмоўнай даты запуску працы каналу ў Тайландзе кітайскія чыноўнікі называюць 2025 год.

### Алег Цягнібок



Лідар украінскага нацыяналістычнага аб'яднання «Свабода» 9 лютага на партыйным з'ездзе ў Кіеве быў пераабраны на новы тэрмін. Між тым каментатары пішуць, што пераабранне Цягнібока значыць пачатак сыходу яго «Свабоды» з палітычнай сцэны і перафарматаванне ўсяго правага поля. Справа ў тым, што Цягнібок лічыцца прадстаўніком Заходняй Украіны, а цэнтр нацыяналістычнага руху яўна знаходзіцца ў Цэнтральных рэгіёнах, пра што добра сведчыць статыстыка мабілізацыі. Не здольнасць змяніць лідара і захапіць новыя сацыяльныя базы, на думку палітолагаў, хутка прывядзе да краху праекту. Праўда, сам Цягнібок дастаткова аптымістычна глядзіць у будучыню. Па яго словах, на з'ездзе структуры «Свабоды» пачынаюць падрыхтоўку сапраўднага Майдану, паколькі папярэдні аказаўся не нацыянальнай рэвалюцыяй, а толькі «барацьбой за змену рэжыму». На кангрэсе «Свабоды» таксама пастанавілі перавесці партыю на вайсковы стан і выключыць з партыі ўсіх, хто ўхіляецца ад мабілізацыі.

Сяргей ШАПРАН

**«ДДТ» зноў, пасля шасцігадовага перапынку, прыязджае ў Беларусь: 20 лютага — Віцебск, 22-га — Гомель, 24-га — Брэст, 26-га — Мінск. Лідар «ДДТ» Юрый Шаўчук у мінулыя гады часта бываў у беларускай сталіцы з канцэртамі, дый не толькі — гэта дзякуючы менавіта яму напоўніцу загучала ў другой палове 1990-х назва гурта «Тройца» і стала больш шырока вядомая паэзія Веньяміна Блажэннага...**



**С жонкай Эльмірай. Мінск, 1991 г.**



# Юры Шаўчук: «Мне заўсёды падабаліся людзі, якія не хадзілі строем»

Май 1989 года. На мінскім стадыёне «Дынама» «ДДТ» дае два канцэрты. Інтэрнэту ў той час не было, і інфармацыю магчыма было здабываць толькі з газет ды тэлевізара. Зрэшты, нягледзячы на ўжо тады вялікую папулярнасць, пра «ДДТ» мала пісалі — карабель савецкага афіцыйнага друку быў даволі непаваротлівы.

Я ведаў толькі тое, што ў 1982 годзе Юрый Шаўчук (мастак-настаўнік па адукацыі, ён паходзіць з Уфы; некалі сям'я Шаўчукоў жыла пад Кіевам, але ў 1930-я гады была выселена на Калыму) атрымаў за песню «Не стреляй!» першае месца ў конкурсе «Камсамолкі» «Залаты камертон».

Менавіта тады і з'явілася назва «ДДТ». Справа ў тым, што калі песня «Не стреляй!» прайшла ў другі тур конкурсу, стала патрэбнай больш канцэптуальная назва, чым проста «Гурт Генадзя Родзіна» (Родзін фармальна лічыўся мастацкім кіраўніком калектыву). Тады і прыдумалі назваца «ДДТ». Фармальна — гэта абрэвіятура ад Дзіцячага дома творчасці, дзе рэпетавалі музыканты. Зрэшты, у назве быў схаваны і падтэкст: ДДТ, як вядома, — гэта інсектыцыд, ці, кажучы прасцей, дуст. Праўда, самі музыканты не дужа ўхвалялі такую аналогію, таму расшыфроўвалі назву інакш, напрыклад, «Дурні з Дома тэхнікі».

У 1984 годзе гурт запісаў альбом «Периферия», у якім кіраўніцтва Башкірыі ўбачыла паклёп на савецкую вёску. У мясцовым друку пачалося шальмаванне аўтара «Периферии». Тады ж Шаўчука выклікалі ў КДБ, дзе патрабавалі не пісаць песень, не выконваць і не садзейнічаць іх распаўсюду. Юра, вядома, нічога не падпісаў. У той жа дзень да яго на вуліцы падышлі невядомыя: «Ты Шаўчук?» — «Я». Збіты, ён патрапіў у бальніцу... Стаўшы на ногі, лідар «ДДТ» зразумеў, што з Уфы яму трэба, як кажуць, рабіць ногі, і з'ехаў спачатку ў Свярдлоўск, пасля ў Маскву і толькі затым, у 1985-м, у Ленінград. Нават на тагачаснай эмблеме «ДДТ» быў крэйсер «Аўрора» з крыламі, як у самалёта, і прапелерам, чамусьці ззаду.

У той раз, у 1989-м, я і пазнаёміўся з Шаўчуком. Спачатку былі, вядома, на «вы», але ў хуткім часе неяк лёгка перайшлі на «ты». Шматтысячны стадыён ужо скандзіраваў: «Юра! Юра!», а мы яшчэ гутарылі. Вось толькі фрагмент з таго інтэрв'ю:

***— Каго б вы назвалі сваім настаўнікам?***

— Найперш маму сваю. Яна — мой галоўны настаўнік. Апроч гэтага, любы добры чалавек, з якім сутыкае цябе лёс, таксама настаўнік. Ці кніга, яна — заўсёды гутарка з добрымі людзьмі. Я люблю кніжкі, якія пішуць добрыя людзі.

***— Біцца — ваша крэда?***

— Па галаве магу даць, часам трэба бывае... У добрага аўтара Толкіена ёсць такая думка: мы павінны дамагацца раўнавагі сіл дабра і зла, каб пакінуць для сваіх сыноў кавалачак прасторы, дзе яны маглі б пачаць рубіцца за дабро... Я не Астроўскі, «каб не было пакутліва балюча...» — увесь гэты пафас я не вельмі люблю. Галоўнае, каб мой паўтарагадовы сын потым не сказаў, што яго бацька быў, прабач, дзярмом. Гэта самае галоўнае...

Дарэчы, тады ж даведаўся, што «ДДТ» мог прыехаць у Мінск і годам раней, але канцэрт забаранілі. Зрэшты, не толькі ў Мінску — гурт Шаўчука забараняліпа ўсім Савецкім Саюзе: у Маскве, Палтаве, Чэбаксарах... Але, як заўважыў Юра, «часы цяпер мяняюцца штомесяц». І яно насамрэч было так, бо ў разгары была гарбачоўская «перабудова».

## Інтэрв'ю з Пецярбурга ў Маскву

З таго часу і пачалося нашае знаёмства-таварыства. Мы бачыліся і гутарылі практычна штогод, у Мінску, Пецярбургу, Маскве... Так, да прыкладу, у 1991 годзе адзін рыжскі часопіс замовіў мне інтэрв'ю з Шаўчуком. Прыехаўшы ў Пецярбург, я спыніўся дома ў Юры. Яго жонка Эльміра ў той час разам з маленькім сынам знаходзілася ва Уфе. Ёй будзе ўсяго толькі дваццаць чатыры гады, калі яе не стане — анкалогія. У тым жа 1992 годзе Юра прысвеціць ёй, мусіць, самы светлы альбом «ДДТ» — «Актриса Весна»: на вокладцы дыска будуць змешчаны малюнкі Эльміры і яе партрэт...

Пражыў я ў Шаўчука пару дзён.

***— Як ты вучыўся ў школе?***

— Па-рознаму. Больш марыў ды глядзеў у акно. Урокі часта прагульваў. Біцца таксама даводзілася. У нас ва Уфе пастаянна адбываўся гвалт дужых над слабымі. Я ўсё гэта вельмі глыбока перажываў у душы. Увогуле, я рос даволі слабым хлопчыкам. І па першым часе мне шмат даставалася, гэта значыць, бойкі я прайграваў. Потым усё змянілася, як гэта звычайна і бывае: спачатку цябе б'юць, потым — ты.

***— Ты ўпарты?***

— Так, мяне даволі часта характарызуюць гэтым словам. Але ўпарты толькі тады, калі цалкам перакананы ў сваёй праваце.

***— А ці часта дакараеш сябе за мяккасць характару?***

— Здараюцца такія сітуацыі, калі мне падаецца, што трэба было паступіць больш жорстка. Але на самай справе я хутчэй дакараю сябе за мяккасць, якая часам ува мне праяўляецца. Залішняя мяккасць робіць столькі ж зла, колькі і залішняя жорсткасць...

Трэба патлумачыць, што размаўляць з Шаўчуком было кожнага разу надзвычай цікава (правільней казаць — слухаць Шаўчука), але не ў любы момант можна было распачаць тую гутарку — трэба было злавіць той настрой, калі ён гатовы да шчырай размовы. Як тады, у Маскве, дзе праз нейкі час мы сустрэліся пасля канцэрта ў грымёрнай. Юра гаварыў:

— Мая самая любімая культура — крыта-мікенская. Мне ўсё там падабаецца: якое месца займала жанчына ў грамадстве, чым яна займалася і нават тое, як апраналася. Такі позні матрыярхат. Мне не падабаецца ў сучасных жанчынах найперш танная, дурная эмансіпацыя, якая шмат у чым навязаная жыццём, сацыяльнымі ўмовамі мясцовага характару. Сапраўды — хоць гэта, мабыць, банальна гучыць, — але ў жанчыне мала жаноцкасці. Эмансіпацыя можа быць дарэчы ў Амерыцы, яшчэ недзе, дзе эмансіпіраваная жанчына абароненая грамадствам, законамі. У Расіі ж жанчыне патрэбная падтрымка, яна павінна быць з мужчынам і плаціць яму за абарону. Калі побач няма мужчыны, гэта, канешне, трагедыя. І эмансіпаванасць шмат у чым вызначаецца гэтым. У нас, увогуле, Сярэднявечча — па характары ўзаемадносінаў: я, мой дом, мая сям'я — усё! Велізарны плот і гэтак далей... Напэўна, у Сярэднявечча нарадзілася каханне ў сённяшнім разуменні: вельмі лірычны стан, звязаны з рэўнасцю, адчуваннем уласнасці чалавека, якога кахаеш, з гэткім гіпертрафіраваным пачуццём.

***— А ці памятаеш першае сваё каханне?***

— Памятаю, канешне. Я вучыўся ў першым класе. Я дужа пакутаваў, як ні дзіўна, бо прадмет майго кахання быў вельмі какетлівы. І гэта, напэўна, былі першыя моманты рэўнасці... Пазней у нас у класе была самая прыгожая дзяўчынка школы, у якую былі закаханыя практычна ўсе. Мяне гэта таксама не абышло. Але я гэтага ніколі не выказваў. Я, увогуле, быў даволі скрытны хлопчык і перажываў у сваёй душы без сведкаў. Цяпер разумею, што гэта вельмі многа дало мне для больш тонкага ўспрыняцця сусвету, дало нейкае разуменне жыцця. Таму што калі тваё каханне не мае ўзаемнасці, чалавек значна больш атрымлівае духоўна. Калі каханне не выплёскваецца на паверхню, у чалавеку адбываецца каласальная праца. Для чалавека творчага вельмі важнае каханне без узаемнасці. Я прыйшоў да высновы, што ўсё-ткі лягчэй кахаць самому, чымсьці быць каханым. Таму што калі цябе кахаюць, а ты — не, гэта дужа пакутліва. Калі ты, вядома, не пераступаеш цераз людзей. А самому кахаць — гэта выхоўваць душу. Пакуты — гэта і ёсць тая выдатная глеба, на якой узрастае асоба. Гэта законы жыцця. Нельга, каб усё ішло як па масле. Інакш чалавек вырастае раўнадушным...

### Ад імя «пакалення дворнікаў і вартаўнікоў»

Зрэшты, паколькі мы бачыліся даволі часта, Шаўчук мо праз які-небудзь дзясятак-другі інтэрв'ю аднойчы папікнуў: «Што ты ўсё пра нас ды пра нас пішаш? Ты б лепей больш пра маладых пісаў». З таго часу мы хоць па-ранейшаму сустракаліся, але нейкі перыяд інтэрв'ю я ўжо не рабіў. Праўда, аднойчы ў нас з ім узнікла ўсё ж узаемная зацікаўленасць у публікацыі.

А ўсё таму, што падчас выступлення ў Мінску Юра прапанаваў гледачам дасылаць запіскі з пытаннямі, але ні на адно з іх не адказаў, бо з-за пражэктараў не заўважыў кошыкаў, што стаялі на авансцэне і куды гледачы клалі запіскі. І як жа ён быў здзіўлены, калі пасля канцэрта ў грымёрную прынеслі ажно два кошыкі, якія былі запоўнены паперкамі! Вось я і прапанаваў: Шаўчук адказвае на пытанні гледачоў, а я друкую яго адказы ў «Белорусской деловой газете». Юра ахвотна пагадзіўся...

***— Здараецца так, што «по нулям кислород и бензин»?***

— Здараецца. Але кіслародную падушку я, канешне, у сябе пад ложкам не трымаю. Мяне выратоўваюць сябры і добрыя людзі, якіх у сапраўднасці значна больш. Проста дрэнныя людзі больш бачныя і смярдзючыя. Таму і здаецца, што іх болей.

***— Ці не здаецца вам, што рускім рокерам, «пакаленню дворнікаў і вартаўнікоў», паветра свабоды не надта пайшло на карысць? Наташа.***

— Наташа, колькі горычы і самоты!.. Мы дасюль разбіраемся, што ж такое свабода. І ніхто, па-мойму, не ведае дакладнага адказу на гэтае пытанне... Асабіста я вельмі шмат разважаю на гэтую тэму. І, на мой погляд, свабода — гэта найперш адказнасць. Па-другое, гэтае вызначэнне вельмі цесна звязана з сэнсам жыцця. Гэта, мабыць, вельмі роднасныя рэчы... Нам Гасподзь дараваў свабоду выбару, дарагая Наташа, паміж дабром і злом. Свабода не азначае — што хачу, тое і раблю. Свабода значыць — выбіраю дабро. А мы часам выбіраем зло. Вось у чым самота свабоды. І мне здаецца, што маё «пакаленне дворнікаў і вартаўнікоў» разбіраецца ў гэтым крыху лепш, чым пакаленне, якое абрала «пэпсі». Таму што новае пакаленне найчасцей прагне толькі задавальнення. А гэта, пагадзіцеся, суцэльны эгацэнтрызм.

### Праўда на праўду

Быў кастрычнік 1993-га. Юра тады жыў пад Пецярбургам, у Рэпіне, дзе месцяцца лецішчы сябраў Саюза кампазітараў. Сустрэўшыся ў офісе «ДДТ» на вуліцы Пушкінскай, паехалі ў Рэпіна.

У горад я тым вечарам больш не вярнуўся, бо на лецішчы нас чакала пачатая пляшка гарэлкі, якая дужа засмуціла мяне. Рэч у тым, што ўсе, хто быў блізкі да «ДДТ» у той час, ведалі, што ў Шаўчука бываюць даволі працяглыя перыяды, калі ён вядзе абсалютна цвярозы лад жыцця (прыгадваецца, што ў яго камуналцы вісела карціна, на якой быў намаляваны жудаснага выгляду дзік, і тут жа быў, здаецца, такі надпіс: «Свіння той, хто спойвае Шаўчука»).

Праўда, якраз у адзін з такіх перыядаў мы пасварыліся з Шаўчуком. Ён тады прыехаў у Мінск, і я, як звычайна, падараваў яму фотаздымкі, што зрабіў падчас мінулага канцэрта. Але Юру іх якасць даволі моцна засмуціла. «Нешта яны ў цябе шэрыя», — сказаў ён. Я патлумачыў, што рабіў іх на таннай фотапаперы, бо грошай у мяне нямнога. «Стары, — Шаўчук часта так да мяне звяртаўся, — мастацтва нельга рабіць малымі сродкамі». І нават плакат гэткім жа чынам пасля мне падпісаў. Праз гэта мы не тое, што разышліся, але, ва ўсялякім выпадку, не паразумеліся.

І вось цяпер, заўважыўшы пачатую пляшку, я асцярожна заўважыў: «Юра, ты ж не п'еш». Шаўчук адказаў: «Стары, я зразумеў, што мастак не можа быць манахам».

У той час ён працаваў над новым альбомам і цяпер, уключаючы магнітафон, на які былі запісаны «балванкі» новых песень, спяваў іх пад гітару: «Ты не один», «Что нам ветер...» Гэтыя песні адразу лёгка і ўтульна леглі на душу, і я прасіў Шаўчука яшчэ і яшчэ раз заспяваць іх...

У тую ноч мы доўга сядзелі і гаманілі. Ужо потым Юра сказаў, што тут недалёка Фінскі заліў, на які вельмі добра глядзець, стоячы пад зорным небам. «Давай пойдзем», — ахвотна пагадзіўся я. «Не, стары, да заліва трэба ісці аднаму!» — філасофскі хмыкнуў Шаўчук. Ну, калі аднаму, дык аднаму. Я пайшоў. А калі вярнуўся, Юра ўжо спаў... Нараніцу я не стаў яго будзіць, а ціха сабраўся, бо ўдзень ішоў мой цягнік на Маскву.

Ужо пазней даведаўся, што і Шаўчук праз некалькі дзён ірвануў уначы на машыне ў Маскву — пасля таго, як убачыў па тэлевізары, што танкі страляюць па «Белым доме», ёсць забітыя і параненыя... Мабыць, мы былі ў той час недзе побач і, можа, разам трапілі пад аўтаматныя чэргі ці адзіночныя стрэлы снайпераў, якія паселі ў высотках уздоўж Кутузаўскага праспекта. Ужо потым Шаўчук напіша пра гэта песню «Правда на правду»:

*...И справедливость думала занять чью-либо сторону.*
*Потом решила, как всегда, пусть будет смерти поровну.*
*Да погибали эти окна, эти крыши первыми.*
*Все пули были здесь равны, все мысли верными.*
*Аплодисменты, бис, везде ревело зрелище.*
*Стреляло право по беде — увидишь где ещё...*

### «Тройца можа быць толькі адна»

І гэта ж дзякуючы Шаўчуку пачаў набываць вядомасць гурт «Тройца» (тады яшчэ ў складзе Івана Кірчука, Дзмітрыя Лук'янчыка і Віталія Шкілёнка). У той праезд у 1996-м «ДДТ» выступалі ў канцэртнай зале «Мінск». Яшчэ ўдзень Шаўчук папрасіў прынесці аўдыёзапісы беларускіх музыкантаў, каб выбраць некага, хто б выступіў на пачатку канцэрта. Запісы тыя хутка з'явіліся, і Юра адкідаў касету за касетай, кожнага разу кажучы адно і тое ж недрукаванае слова, і спыніўся толькі тады, калі пачуў «Тройцу». Ужо пазней ён запрасіў гурт у Пецярбург на фестываль «Песні канца XX стагоддзя», які ладзіў «Тэатр «ДДТ». І хоць вядучым тады быў шоўмэн з «Аўкцыёна» Алег Гаркуша, Шаўчук сам аб'явіў беларускіх музыкантаў, а падчас адной з песень пусціўся ў скокі прама на сцэне...


З Веніямінам Блажэнным

Зрэшты, калі гурт распаўся (першы яго склад), Юра па-філасофску заўважыў: «Тройца можа быць толькі адна».

### Веньямін Блажэнны

Варта ўзгадаць яшчэ імя Веньяміна Айзенштата, які пісаў пад псеўданімам Блажэнны. Сталага веку, Веньямін Міхайлавіч жыў у Мінску на вуліцы Караля. Яшчэ 24-гадовым юнаком быў частым госцем у Барыса Пастэрнака, які высока цаніў паэта-пачаткоўца. Узнёслыя словы пра яго паэзію казалі Арсеній Таркоўскі і Віктар Шклоўскі. А між тым у Беларусі яго практычна не ведалі. Веньямін Міхайлавіч цяжка хварэў і ў апошнія пятнаццаць гадоў не выходзіў з дому.

Пра яго Шаўчук даведаўся, мусіць, у рэдакцыі пецярбургскага часопіса «Петрополь» (ва ўсялякім выпадку, казаў, што сустрэцца з Айзенштатам яго папрасілі ў «Петрополе»). Пазнаёміў жа яго з паэтам Іван Паланейчык, арганізатар большасці мінскіх канцэртаў «ДДТ».

Я пачуў пра Веньяміна Міхайлавіча ўжо ад Юры. І гэта ж дзякуючы Шаўчуку выйшла ў 1994 годзе кніга Блажэннага «Сораспятье», прычым з'явілася неверагодным накладам — дваццаць тысяч асобнікаў. Гэта сталася магчымым дзякуючы падтрымцы кіраўніка кампаніі «Нов & К» Валерыя Новіка, з якім Шаўчук пазнаёміўся, трэба сказаць, выпадкова. І вось праз гэтае знаёмства і сталася магчымай кніга Блажэннага, а пазней і дакументальны фільм рэжысёра Сяргея Галавецкага «Вениамин Блаженный». Такім чынам, дзякуючы менавіта Шаўчуку імя Веньяміна Міхайлавіча стала больш шырока вядома хоць бы ў апошнія гады яго жыцця.

### Васіль Быкаў

Ліпень 2003 года. Тыдзень таму не стала Васіля Быкава. Перад канцэртам я прапанаваў Шаўчуку завітаць да Ірыны Міхайлаўны Быкавай. І хоць у гасцях мы былі нядоўга дый асаблівых гутарак Шаўчук і Ірына Міхайлаўна не вялі, але сама атмасфера Быкаўскай кватэры і найперш кабінета Васіля Уладзіміравіча, які сотнямі кніг і фотаздымкаў зберагаў памяць пра гаспадара, відавочна ўразілі Юру. «Я нібыта ў храме пабываў», — сказаў ён сыходзячы.

Ужо падчас канцэрта Шаўчук сказаў, што прысвячае «Пластуна» сапраўднаму салдату Васілю Быкаву. Стадыён падняўся.

*Мне страна ворковала о сыновней любви,*
*Вытирая платочком сухие глаза,*
*Сморкаясь в кровавое вымя зари,*
*Поминая героические имена,*
*Прикрепляя медаль на дырявую грудь...*

Пасля канцэрта, усхваляваны, ён запытаўся: «Ты бачыў, калі я сказаў, што песня прысвячаецца Васілю Быкаву, партэр адразу ўстаў?! Я душэўна быў крануты гэтым». На маёй памяці гэты быў першы выпадак, калі Шаўчук ахвяраваў некаму сваю песню.

Між іншым, той канцэрт доўжыўся дзве з паловай гадзіны, і аднаму Богу вядома, чаго гэта каштавала Шаўчуку. Рэч у тым, што напярэдадні ён патрапіў у аварыю і сур'ёзна пашкодзіў калена. Ужо ў дзень канцэрта ўрачы выдалі яму здымны гіпс.

На сцэну і са сцэны Юра мог падымацца толькі з нечай дапамогай. І таму за некалькі хвілін да канцэрта вырашаў: ці казаць гледачам пра праблемы з нагой? Калі не скажа, разважаў, гледачы вырашаць, што Шаўчук, маўляў, пастарэў, бо ні танцаваць, ні рухацца ўжо не здольны. А пасля жартам казаў, што апране шорты, каб быў бачны гіпс. «Не, не будзем на шкадаванне націскаць», — усміхнуўся. Я яшчэ запытаўся ў Юры, калі ён, кульгаючы, падыходзіў да сцэны: «Як жа ты будзеш выступаць?» — «Пра гэта ўмомант забудуся, бо на сцэне ў крыві адразу з'яўляецца адрэналін». Зрэшты, так яно і выйшла — Шаўчук так разышоўся, што я і забыўся, на якую ж нагу ён перад тым кульгаў...

Ужо потым, падчас прэс-канферэнцыі, Юра сказаў: «Калі даведаўся, што Васіль Быкаў, царства нябеснае, памёр, вырашыў абавязкова прысвяціць яму песню. «Пластуна» абраў таму, што Васіль Быкаў быў франтавік, баец і воін. Да таго ж у ім была вялікая ўнутраная свабода, якую і мне хацелася б не згубіць. Дзівосны чалавек, дзівосная асоба. Мне заўсёды падабаліся людзі, якія не хадзілі строем. Нават на вайне. Людзі, якія і думалі інакш. Прычым неістотна — памыляецца чалавек ці не. Важна, што ў ім ёсць нешта такое, што зачароўвае. Важна, што ў ім ёсць праўда, магутнасць, моц, інтэлект і сумленнасць. Сумленнасць найвысакародная. Можна толькі ўявіць, які існаваў у той час прэсінг у літаратуры: сацрэалізм, крок улева, крок управа — расстрэл. А чалавек пісаў пра вайну сапраўдную праўду. І пісаў не пра тую вайну, пампезную і гераічную, а пра вайну гераічную, але не пампезную. Гэта розныя рэчы. Гэта дарагога каштуе. І памёр 22 чэрвеня, у дзень пачатку вайны. Гэта, дарэчы, варта песні». І пасля ўжо папрасіў нейк перадаць яму кнігу Быкава і пажадана, каб з дарчым аўтографам Ірыны Міхайлаўны «для Юры».

* * *

Падчас нашай апошняй сустрэчы Шаўчук напісаў мне на кнізе «Поэты русского рока»: «Сергей, надеюсь твоё почитать!» З таго часу мы больш не бачыліся, і ён, канешне, не ведае, што за мінулае дзесяцігоддзе ў мяне з'явілася нават не адна ўжо кніга. Мо калі-небудзь мы яшчэ сустрэнемся, і я падарую яму адну са сваіх кніг. І толькі крыху шкада, што гэта не будзе кніга пра «ДДТ» і пра тыя часы, калі мы былі маладыя і калі жыццё здавалася бясконцым.



Алесь Пашкевіч узнагароджвае лаўрэата прэміі Сяргея Дубаўца

# Лаўрэаты прэміі «Залаты апостраф»–2014

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Часопіс «Дзеяслоў» у дванаццаты раз узнагародзіў лаўрэатаў літаратурнай прэміі «Залаты апостраф».**

«Традыцыйна, лаўрэатам прэміі можа ставіцца толькі адзін раз. Але колішнія пераможцы дасылаюць нам досыць цікавыя творы. Таму мы думаем парушыць гэтую традыцыю», — сказаў старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч.

А першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч, галоўны рэдактар газеты «Літаратурная Беларусь», абвясціў намінантаў прэміі ў галіне прозы. Лаўрэатам прэміі стаў Сяргей Дубавец, які напісаў твор «Вайна і мір. Справаздача». У намінацыі «Паэзія» перамагла Людка Сільнова.

Уладзімір Някляеў, трымаючы ў руках закрыты канверт з імем пераможцы конкурсу ў намінацыі «Дэбют», паклікаў да сябе Мікіту Найдзёнава, вядомага як саліста гурта «Hurma». Някляеву вельмі спадабаліся вершы Мікіты, і ён зрабіў стаўку, што менавіта гэты малады паэт стане лаўрэатам у намінацыі «Дэбют». Пасля таго, як канверт быў адкрыты, усім стала зразумела, што Уладзімір Някляеў меў рацыю.

Алесь Усеня ўзнагароджваў спецыяльнай прэміяй — «За вялікі творчы ўклад у сучасную беларускую літаратуру». Яе атрымаў вядомы беларускі паэт Ніл Гілевіч. Праз хваробу творца не змог прыехаць на мерапрыемства, таму ўзнагароду атрымаў яго сын — Сяргей Нілавіч. «Часопіс «Дзеяслоў» насамрэч дапамагае майму бацьку жыць, — прызнаўся Сяргей Гілевіч і дадаў: — Жыве «Дзеяслоў»!».



Уладзімір Някляеў узнагароджвае Мікіту Найдзёнава

Для выканання музычнай часткі імпрэзы былі запрошаны ўдзельнікі дзеяслоўскай Анталогіі перакладаў расійскай рок-паэзіі. Высветлілася, што творчасць Барыса Грабеншчыкова з'яўляецца папулярнай для перакладу на беларускую мову. Так, песні вядомага спевака па-беларуску выканалі гітарыст Арцём Сітнікаў разам з флейтысткай Багданай і скрыпачкай Вікторыяй. Падхапілі хвалю БГ па-беларуску і вядоўца імпрэзы Анатоль Івашчанка з Уладзімірам Дрындрожыкам. Раман Яраш здзівіў усіх своеасаблівай інтэрпрэтацыяй «Магутны Божа». Андрэй Хадановіч зачытаў пераклады літоўскага паэта Гінтараса Граяўскага і ўкраінскага Сергія Жадана, таксама праспяваў «Арландыну» і песню Уладзіміра Высоцкага па-беларуску.

Падставай для імпрэзы з'явілася не толькі ўзнагарода лепшых літаратараў, па меркаванню журы, але і ўдзячнасць «Дзеяслову» як адной з буйной пляцовак вольнага слова. Лаўрэаты «Залатога апострафа» мінулых гадоў адзначылі гэты факт у сваіх выступах. Алесь Бяляцкі заўважыў: «Вось паўгода як я ўжо на волі, але нічога не пішу. «Дзеяслоў» прымушае пісаць». Леанід Дранько-Майсюк падзяліўся: «Калі выйшаў першы нумар «Дзеяслова», я меркаваў, што больш ужо не выйдзе. Але пасля выйшлі і другі, і трэці, і чацвёрты… І заўжды падавалася, што кожны нумар як апошні. Але зараз ужо пераваліў за сямідзясяты… І «Дзеяслоў» жыве!».

# Гуляй як Бэкхэм, ці Інтэркультуралізм у дзеянні

Маргарыта ТАРАЙКЕВІЧ

**Палітыка мультыкультуралізму правалілася, кажуць правыя ці проста расісты. Знаходзячы безліч аргументаў і карыстаючыся як падарункам кожным злачынствам з удзелам людзей нетытульнага паходжання.**

Прыхільнікі мультыкультурнага грамадства таксама маюць безліч аргументаў. Прынамсі — безліч жывых пацверджанняў сваіх спадзеваў: паспяховых імігрантаў і іхніх нашчадкаў.

Выбар пазіцыі часта залежыць ад таго, наколькі чалавеку падабаюцца рознакаляровасць твараў і штодзённыя стасункі з арабамі, афрыканцамі, рускімі, чачэнцамі і г. д. Наколькі ён не дбае пра чысціню расы ці культурнага субстрату, але любіць дыхаць паветрам разнастайнасці.

Калі я бачу сацыяльную рэкламу і фільмы з наўмыснай разнастайнасцю колераў і этнічных тыпаў — я бачу ў гэтым не паліткарэктнасць. А мару. Мару пра грамадства, арганізаванае на прынцыпах супрацы, роўнасці і салідарнасці самых розных людзей.

Дакладней, гэта не мара, а ідэя. Добрая і якасная.

Зараз, з усімі тэрактамі і «Je suis Charlie», яна праходзіць чарговыя выпрабаванні. І падставаў для аптымізму — багата.

Прычым тут мілы «лёгкі» фільм «Гуляй як Бэкхэм» (Bend it like Backham, 2002), брытанская камедыя пра дзяўчынку з добрай індыйскай сям'і ў Вялікабрытаніі, драма якой круціцца вакол яе жадання гуляць у футбол і перашкодаў у выглядзе сямейна-культурных забабонаў?

Не толькі пры тым, што ёсць сюжэт дыяспары, якая моцна трымаецца за свае нееўрапейскія культурна-рэлігійныя карані. Але і пры тым, што ў фільме адлюстраваныя і мара, і ідэя, і, нарэшце, рэальнасць мультыкультурнага грамадства.

Жанчыны ў традыцыйных сары спешна рыюцца ў сумках пры гуку мабільніка, індыянка Джасмінда (Парміндэр К. Награ) сябруе з англічанкай Джульетай (Кіра Найтлі), сяброўкай па футбольнай камандзе, — гэтыя і іншыя вобразы культурнага калажу прадстаўлены з непасрэдным гумарам і цеплынёй.



Ёсць і глыбейшы пласт: па-першае, сутыкненне аўтарытарна-кансерватыўнай культуры, у якой дзеці безумоўна падпарадкоўваюцца бацькам, — з індывідуалістычнай, у якой кожны мае права абіраць свой шлях.

Сяброўкі па камандзе не разумеюць Джэс, калі тая кажа пра перашкоду з боку сям'і. Паказальны дыялог: «Прашу прабачэння, але як ты можаш гэта трываць? — Гэта мая культура».

Уласна, у гэтай самай культуры (і тут і рэалістычнасць, і навука для апалагетаў аўтарытарызму) дзеці насамрэч не такія паслухмяныя. Не ідучы на канфрантацыю, яны знаходзяць абыходныя шляхі, нібы адвечная Варвара з «Навальніцы» Астроўскага. Сястра Джэс тайна сустракаецца з каханым; а калі на Джэс памылкова падумалі, што тая цалавалася з англійскім хлопцам, — крычыць на яе: чаму ты не можаш рабіць гэта прыхавана, як усе?! А сябар-індус дае Джэс старую як свет параду — гуляць у футбол і нічога не казаць бацькам: «Тое, чаго яны не ведаюць, іх не непакоіць!».

Зняшчаецца ў фільме і мэсэдж для дзяцей, незадаволеных бацькоўскімі патрабаваннямі: заклік ставіцца з разуменнем да бацькоўскіх забабонаў. Бо, па-першае, за імі можа стаяць пакутлівы досвед, а па-другое і галоўнае — у аснове ляжыць любоў да дзяцей і жаданне абараніць іх ад жыццёвых праблемаў.

Было б не так цікава, калі б сям'я Джэс была неадэкватнай ці блага інтэграванай. На шчасце, праблематыка больш шматгранная: гэта адукаваная сям'я, якая выпраўляе дачку вучыцца ва ўніверсітэце. Дый бавіцца

**Прычым тут мілы «лёгкі» фільм «Гуляй як Бэкхэм»**

футболам яны ёй дазвалялі, пакуль была падлеткам. Але ўзнікла сітуацыя, калі жаданні Джэс выйшлі з сямейнага дыяпазону прымальнасці.

Праблематыка фільму набліжаецца да хрысціянска-агульначалавечых тэмаў паслухмянасці і свабоднай волі, уласнага выбару і лёсу ці Провіду… У выніку Джэс дасягае гармоніі паміж уласным выбарам і паслухмянасцю бацькам. Гэтай гармоніі дасягнуць дазваляе яе любоў да сваёй сям'і, з аднаго боку, і, з другога, любоў бацькі да сваёй дачкі. Рашаючы матч, на які бацька дазволіў адправіцца, сітуацыя поспеху, калі Джэс трапна забівае гол, — мантажна злучаецца з кадрамі адначасовых танцаў на вяселлі яе шчаслівай сястры са сваім каханым. Мараль супадае з тым, як заканчвае адзін са сваіх раманаў Джэн Осцін, брытанка ранейшай эпохі: «Я прадстаўляю тым, каго гэта датычыцца, вырашыць — служыць гэтая кніга праслаўленню бацькоўскай тыраніі ці апраўданнем сынавай непаслухмянасці».

Усё прыходзіць у гармонію і ўсё атрымліваецца, уключаючы і асабістае жыццё Джэс, і яе вучобу, і спартыўную кар'еру. Той жа мэсэдж міжволі прачытваецца і пра гарманічнае сужыцельства розных культураў, якія ўзаемаразвіваюцца і бяруць адна ў адной лепшае: усё атрымаецца.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 196

Падпісана да друку 13.02.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.